# ЗНО

## Літаратурна-філасофскі сшытак

ЗНО 18



# Фрыдрых Ніцшэ 150

## Кароткі жыццяпіс

**1844.** Фрыдрых Вільгельм Ніцшэ, першы сын святара Карла Людвіга Ніцшэ і Францыскі Ніцшэ, нарадзіўся 15 кастрычніка ў мястэчку Рокен каля Лютцэна. "Мае продкі былі польскай шляхтай (Ніцкі)" (ліст Т.Брандэсу).

**1850.** Пераезд сям'і ў Наўмбург. Паступіў у гарадскую школу для хлопчыкаў.

**1854.** Пераход у пяты клас гімназіі. Першыя спробы вершаскладання і музыкальных кампазіцый.

**1858.** Паступленне ў знакамітую школу Пфорта пад Наўмбургам.

**1860.** Засноўвае сумесна з сябрамі дзяцінства музычна-літаратурны саюз "Германія".

**1864.** Дыпломная работа, вандроўка па Рэйне, на працягу двух семестраў вывучэнне тэалогіі і філалогіі ў Бонскім універсітэце. Шматлікія музычныя кампазіцыі, сярод іх дзве песні на вершы Пушкіна ("Заклён" і "Зімовы вечар").

**1867.** Выхад у свет у 22-м нумары "Рэйнскага навуковага часопіса" першага артыкула Ніцшэ "Да гісторыі феагнідаўскага гномалогіума". Выклікаецца на вайсковую службу ў коннае падраздзяленне палка палявой артылерыі ў Наўмбургу. Сачыненне пра Дыягена Лаэрцкага ўзнагароджваецца прэміяй. Даследаванне тэкстаў Дэмакрыта.

**1868.** Вызваляецца ад вайсковай службы з-за моцнай траўмы, якую атрымаў пры няўдалым ускокванні на каня. Першая сустрэча з Вагнерам. "Доўгая размова пра Шапэнгаўэра: ах, ты зразумееш гэта, якой насалодай для мяне было слухаць яго, які з вялізнай цеплынёй казаў пра Шапэнгаўэра, чым ён яму абавязаны і што гэта адзіны філосаф, які зразумеў сутнасць музыкі" (ліст Родэ).

**1869.** Рашэннем базельскай універсітэцкай камісіі 24-гадовы Ніцшэ зацвярджваецца на пасаду экстраардынарнага прафесара класічнай філалогіі Базельскага універсітэта і выкладчыка грэцкай мовы ў старэйшых класах Педагогіума (без папярэдняй абароны кандыдацкай і доктарскай дысертацый). Знаёмства з Якабам Буркхардам і пачатак сяброўства з Рыхардам Вагнерам. 23 сакавіка Лейпцыгскі універсітэт на падставе артыкулаў, надрукаваных у "Рэйнскім навуковым часопісе", без абароны прысвойвае прафесару Ніцшэ доктарскую ступень.

**1870.** Прызначаецца на пасаду ардынарнага прафесара. Тэмы летняга і зімовага семестраў: Сафокл, "Цар Эдып"; Гесіёд; "Метрыка"; Цыцэрон, "Academica". Знаёмства і сяброўства з Францам Авербахам. Франка-пруская вайна. Ніцшэ просіць дазволу пайсці на фронт у якасці салдата ці санітара. Суправаджаючы транспарт з параненымі, атрымлівае заразу на дызентэрыю і дыфтэрыт. Тыдзень паміж жыццём і смерцю. Вяртанне ў Базель.

**1871.** Пагаршэнне стану здароўя, часовы адпачынак для лячэння. Друкуецца брашура (на правах рукапісу) "Сакрат і грэцкая трагедыя".

**1872.** Выхад у свет кнігі "Нараджэнне трагедыі". Вагнер у захапленні: "Дарагі сябра! Я не чытаў яшчэ нічога больш цудоўнага, чым Ваша кніга". Студэнты плануюць зладзіць у яго гонар факельнае шэсце — Ніцшэ адгаворвае іх ад гэтай задумы.

**1873.** Рэзкае, і ўжо на ўсё жыццё, пагаршэнне здароўя. Аслабленне зроку — да немагчымасці самому пісаць. Разам з тым праца над "Несучаснымі развагамі".

**1876.** Вызваленне з-за хваробы ад выкладання ў Педагогіуме, а затым і ва універсітэце — адпачынак на год.

**1878.** Друкуецца "Чалавечае, залішне чалавечае".

**1879.** З пачатку года штодзённыя прыступы хваробы, якія суправаджаюцца ванітамі. "Мой стан — пярэдадзень пекла і нічым не адрозніваецца ад стану жывёлы, якую катуюць". Просьба аб адстаўцы па стану здароўя. Просьба задавальняецца. Прызначаны штогадовы пенсіён у 3000 франкаў. Развітанне з Базелем і пачатак бадзяжнага жыцця. Летні маршрут: замак Брэмгартэн пад Бернам, Цюрых, Візен ля Даваса, Санкт-Морыц.

**1882.** Знаёмства з Лу фон Саломэ, дачкой пецярбургскага генерала. "Лу — дачка рускага генерала, і ёй 20 год; яна празорлівая, як арол, і мужная, як леў, і пры ўсім тым, аднак, зусім дзяўчынка і дзіця". Адмова Лу на прапанову Ніцшэ выйсці за яго замуж. Выхад у свет "Вясёленькай навукі".

**1883.** 1-я і 2-я часткі "Так сказаў Заратустра". 13 лютага смерць Рыхарда Вагнера ў Венецыі. "Каб ён пажыў далей, о, чаго толькі не ўзнікла б паміж намі! Лук мой нацягнуты страшнымі стрэламі, а Вагнер належаў да пароды людзей, якіх можна забіць словам" (ліст М. фон Мейзенбугу).

**1884.** 3-я частка "Так сказаў Заратустра".

**1885.** Завершана 4-я частка "Так сказаў Заратустра". "З вачыма ўсё горш і горш... Заўсёдныя прыступы, ваніты за ванітамі..." (ліст да маці і сястры).

**1886.** Выхад у свет кнігі "Па той бок дабра і зла", якую Ніцшэ вымушаны быў надрукаваць за ўласны кошт.

**1887.** Друкуецца партытура "Гімна да жыцця". "Некалі ў блізкім ці далёкім будучым яго будуць спяваць у памяць пра мяне, у памяць пра філосафа, у якога не было сучаснасці і які нават не хацеў мець яе" (ліст Г. фон Бюлаву).

**1888.** Рыхтуе "Перарахунак усіх каштоўнасцяў". Канчатковая назва "Антыхрыст". Пачынае і заканчвае працу над "Ессе Homo". "Цяпер з цынізмам, які зробіцца сусветнагістарычным, я расказваю самога сябе. Кніга мае назву "Ессе Homo" і ўяўляе сабой нахабны замах на Укрыжаванага; яна завяршаецца грымотамі перуна і маланкамі супраць усяго, што ёсць хрысціянскага ці хрысціянска-заразнага, — гэтага не вытрымае ні адзін слых і ні адзін зрок..." (ліст Г.Брандэсу). Выхад у свет кнігі "Прыцемкі ідалаў". Першыя прыкметы душэўнай хваробы. Г.Брандэс пачынае чытаць у Капенгагенскім універсітэце курс лекцый па філасофіі Ніцшэ.

**1889.** Па сведчаннях знаёмых Ніцшэ, у апошнія дні "свядомага" жыцця ён, як і заўсёды, не пазбягаў праходак у адзіноце, наведваў бібліятэку, дзе чытаў новыя кнігі, набыць якія не мог з-за нястачы, шмат імправізаваў на фартэпіяна. 3 студзеня здарыўся апаплексічны прыступ і надышло канчатковае замутненне розуму. 10 студзеня Ніцшэ кладуць у псіхіятрычную клініку ў Базелі. Дыягназ: Paralysis progressiva. Гэты дыягназ, для пацверджання якога змысляць гіпотэзу пра хваробу на пранцы, пазней будзе рашуча абвергнуты шэрагам буйнейшых псіхіятраў. 17 студзеня маці перавозіць сына ў псіхіятрычную клініку Йенскага універсітэта.

**1892.** Са згоды маці падрыхтаваны першы збор твораў Ніцшэ.

**1894.** Рэзкае пагаршэнне стану.

**1895.** Выхад у свет "Антыхрыста" і "Ніцшэ contra Вагнер".

**1897.** 20 сакавіка — смерць маці. Перад гэтым сястра перавозіць Ніцшэ ў Веймар.

**1900.** 25 жніўня: смерць Фрыдрыха Ніцшэ.

# ЕССЕ НОМО

## Урыўкі

***Факт з'яўлення на паліцах кнігарняў "Так сказаў Заратустра" Фрыдрыха Ніцшэ ў перакладзе з нямецкай Васіля Сёмухі мы мусім адзначыць з некалькіх прычынаў: і з тае, што гэта, як звычайна ў Васіля Сёмухі, "выкшталцоны" пераклад; і з тае, што гэта ці не першая за апошнімі часамі філасофская кніжка, надрукаваная ў беларускай мове тут на Беларусі; і з тае, што выдавецтва "Мастацкая літаратура" падгадала з выхадам "Так сказаў Заратустра" да 150-х угодкаў з дня нараджэння Фрыдрыха Ніцшэ. Са свайго боку, для тых, хто набыў гэтае выданне, мы прапануем пазнаёміцца з некалькімі ўрыўкамі з кнігі "Ессе Homo", дзе Фрыдрых Ніцшэ распавядае, як і з чаго ўзнікла задума "Так сказаў Заратустра" і якія філасофскія значэнні ды сэнсы ён заклаў у яе звышпаэтызаваную лагему. Паразумецца ў апошнім з аўтарам "Кнігі ўсім і нікому" будзе не лішнім кожнаму яе чытачу, бо і па сёння застаецца досыць устойлівым недарэчнае меркаванне, быццам гэта не "філасофія", а "паэзія", хаця сам Фрыдрых Ніцшэ не аднойчы падкрэсліваў, што ў "Так сказаў Заратустра" змясціліся ўсе яго асноўныя канцэптуальныя філасафемы.***

Цяпер я раскажу гісторыю Заратустры. Асноўная канцэпцыя гэтага твора, *думка пра вечнае вяртанне*, гэта вышэйшая форма сцвярджэння, якая ўвогуле можа быць дасягнутай, — датуецца жніўнем 1881 года: яна накрэслена на аркушы паперы з надпісам: "6000 футаў па той бок чалавека і часу". Я ішоў у той дзень праз возера Сільваплана цераз лясы; каля магутнага, пірамідальна нагрувашчанага блока камянёў, непадалёку ад Сурлея, я спыніўся. Там з'явілася ў мяне гэтая думка. — Калі я адлічваю ад гэтага дня некалькі месяцаў назад, я знаходжу, як знак, раптоўную і глыбока рашучую змену майго густу, найперш у музыцы. Можа быць, усяго Заратустру дазваліцельна залічыць да музыкі — несумненна, адраджэнне мастацтва *чуць* было яго папярэдняй умовай. У Рэкаара, маленькім горным курорце каля Вінпэнцы, дзе я правёў вясну 1881 года, я адкрыў разам з маім maëstro і сябрам Пэтэрам Гастам, таксама "адроджаным", што фенікс Музыка праляцеў праз нас у пёрках больш лёгкіх і святланосных, чым калі б то ні было раней. Калі, наадварот, я лічу ад гэтага дня ўперад да нечаканага і пры самых неверагодных умовах працякаючага вызвалення ў лютым 1883 года ад цяжару —заключная частка, тая самая, з якой я цытаваў некалькі выказванняў у Прадмове, была дапісаная якраз у той багавейны час, калі памёр у Венецыі Рыхард Вагнер, — то налічваецца васемнаццаць месяцаў цяжарнасці. Гэты лік, менавіта васемнаццаць месяцаў, мог бы падштурхнуць да думкі, прынамсі, сярод будыстаў, што я па сутнасці слон-самка. — Прамежкаваму часу належыць "gaya scienza", якая наявіць сто знакаў блізкасці нечага неверагоднага; нарэшце яна дае нават сам пачатак Заратустры, яна дае ў прадапошнім урыўку чацвёртай кнігі асноўную думку Заратустры. — Гэтаму ж прамежкаваму часу належыць і той *Гімн жыцця* (для змешанага хору і аркестра), партытура якога выйшла два гады таму ў Фрыцша ў Лейпцыгу: можа быць, гэта — немалазначны сімптом для стану таго года, калі сцвярджаючы пафас par excellence, названы мной трагічным пафасам, быў мне натуральны ў найвышэйшай ступені. Потым некалі яго будуць спяваць у памяць пра мяне. Тэкст, пазначаю выразна, бо з гэтай нагоды распаўсюджана памылка, належыць не мне: ён ёсць прыўкраснае натхненне маладой рускай дзяўчыны, з якой я тады сябраваў, — фрэйлен Лу фон Саломэ. Хто здолее ўвогуле вызваліць сэнс з апошніх слоў гэтага верша, той адгадае, чаму я аддаў перавагу яму і захапляўся ім: там ёсць веліч. Пакуты не сведчаць пярэчаннем супраць жыцця: "Калі ў цябе няма болей шчасця, каб даць мне яго, хай сабе! *У цябе ёсць яшчэ твая пакута...*" Можа быць, і ў маёй музыцы ў гэтым месцы ёсць веліч. (Апошняя нота кларнета ў строі ля — сі, а не с. Памылка.) — Наступную затым зіму я жыў у той утульнай ціхай бухце Рапала, непадалёк ад Генуі, якая ўрэзваецца паміж К'явары і мысам Портафіна. Маё здароўе было не з лепшых; зіма была халодная і празмерна дажджлівая; маленькі гатэль стаяў каля самага мора, — так што ноччу прыліў проста пазбаўляў сілы, — і ўяўляў амаль ва ўсім супрацьлегласць жаданаму. Нягледзячы на гэта і амаль у доказ майго цверджання, што ўсё адметнае ўзнікае "нягледзячы", у гэтую зіму і ў гэтых умовах узнік мой Заратустра. — Да палудня я падымаўся ў паўднёвым накірунку па цудоўнай вуліцы ўверх да Зоалы, праз сосны і гледзячы далёка ў мора: папалуднаваўшы, так часта, як гэта толькі дазваляла маё здароўе, я абыходзіў усю бухту ад Санта-Маргерыты да мясцовасці, якая была за Портафіна. Гэтая мясцовасць і гэты ландшафт зрабіліся яшчэ бліжэйшымі майму сэрцу дзякуючы той любові, якую меў да іх імператар Фрыдрых III; выпадкова восенню 1886 года я быў зноў каля гэтых берагоў, калі ён ужо ў апошні раз наведаў гэты маленькі забыты кут шчасця. — На абедзвюх гэтых дарогах прыйшоў мне ў галаву ўвесь першы Заратустра; і найперш сам Заратустра, як тып: дакладней, *ён сам* аб'явіўся мне...

Каб зразумець гэты тып, трэба спачатку ўсвядоміць сабе яго фізіялагічную прадумову: яна ёсць тое, што я называю *вялікім здароўем*. Я не магу растлумачыць гэта лепей, болей асабіста, чым я ўжо зрабіў гэта ў адным з заключных раздзелаў пятай кнігі "gaya scienza". "Мы новыя, невядомыя, незразумелыя, — мы, недаробкі яшчэ не давядзенай будучыні, нам для новай мэты патрэбны і новы сродак, менавіта, новае здароўе, больш учэпістае, больш адважнае, больш вясёлае, чым усё тое, што было да гэтай пары здароўем". [...]

*(Заканчэнне на стар. 6)*

*(Заканчэнне. Пачатак на стар.5)*

Твор гэты стаіць зусім асобна. Пакінем па-за ўвагай паэтаў; магчыма, увогуле ніколі і нішто не было створана ад падобнага лішку сілы. Маё паняцце "дыянісічнае"ператварылася тут у *найвышэйшае дзеянне*; адносна яго ўся астатняя чалавечая дзейнасць выглядае нямоглай і ўмоўнай. Які-небудзь Гётэ, які-небудзь Шэкспір ні хвіліны не маглі б дыхаць у гэтай атмасферы жахлівай страсці і вышыні. Дантэ ў параўнанні з Заратустрай ёсць толькі вернік, а не той, хто *стварае* ўпершыню ісціну, *кіруючы* светам дух, рок, — паэты Веды ўсяго толькі святары і не заслугоўваюць нават развязаць рамяні абутку Заратустры; але ўсё гэта ёсць яшчэ мінімум і не дае яшчэ ніякага ўяўлення пра тую дыстанцыю, пра тую блакітную адзіноту, у якой жыве гэты твор. У Заратустры ёсць вечнае права сказаць: "Я замыкаю кругі вакол сябе і святыя межы; усё меней тых, хто падымаецца са мною на ўсё болей высокія горы; я будую хрыбет з усё болей святых гор". Хай паяднаюць у адно дух і дабрыню ўсіх вялікіх душаў: і сукупна не былі яны ў стане вымавіць хаця б адну прамову Заратустры. Вялікая тая лесвіца, па якой ён падымаецца і апускаецца; ён далей бачыў, далей жадаў, далей мог, чым які б там ні было іншы чалавек. Ён супярэчыць кожным словам, гэты самы сцвярджальны з усіх розумаў; у ім усе супрацьлегласці звязаныя ў новае адзінства. Самыя нізкія і самыя высокія сілы чалавечай натуры, самае салодкае, самае легкаважнае і самае страшнае з бессмяротнай упэўненасцю струменяцца ў яго з адзінай крыніцы. Да яго не ведалі, што такое глыбіня, што такое вышыня, яшчэ меней ведалі, што такое ісціна. Няма ніводнага імгнення ў гэтым адкрыцці ісціны, якое было б ужо прадбачана, угадана *кім-небудзь* з найвялікшых. Не было мудрасці, не было даследавання душы, не было мастацтва гаварыць да Заратустры; самае блізкае, самае паўсядзённае гаворыць тут пра нечуваныя рэчы. Сентэнцыя трымціць ад жарсці; красамоўства сталася музыкай; маланкі бліскаюць у неразгаданай дагэтуль будучыні. Самая магутная сіла вобразаў, якая калі-небудзь існавала, ёсць убоства і цацка ў параўнанні з гэтым узвышэннем мовы да прыроды вобразнасці. — А як Заратустра сыходзіць з гор і гаворыць кожнаму самае добразычлівае! Як ён нават саміх супраціўнікаў, святароў, кранае пяшчотнай рукой і разам з імі пакутуе з-за іх! — Тут у кожным імгненні пераадольваецца чалавек, паняцце "звышчалавек" робіцца тут вышэйшай рэальнасцю, — у бясконцай далечыні ляжыць тут усё, што да гэтай пары называлася вялікім у чалавеку, ляжыць ніжэй яго. Пра халкіянічны пачатак, пра лёгкія ногі, пра сумяшчэнне злосці і легкаважнасці і аб усім, што ўвогуле тыповае для тыпу Заратустры, ніколі яшчэ ніхто не марыў як аб існуючым элеменце велічы. Заратустра менавіта ў гэтай шыры прасторы, у гэтай дасяжнасці супрацьлегласцям пачувае сябе найвышэйшай праявай усяго сутнага; і калі ўчуюць, як ён гэта вызначае, адмовяцца ад пошукаў яму роўнага.

* * *

Так ніколі не пісалі, ніколі не адчувалі, ніколі не пакутавалі: так пакутуе Бог, Дыяніс. Адказам на такі дыфірамб сонечнай адзіноты ў свеце была б *Арыядна*... Хто, акрамя мяне, ведае, што такое *Арыядна*!.. Ні ў кога да гэтай пары не было адгадкі да ўсіх падобных загадак, я сумняваюся, каб хто-небудзь нават бачыў тут загадкі. — Заратустра вызначыў аднойчы з усёй строгасцю сваю задачу — гэта таксама і мая задача, — так што нельга памыліцца ў сэнсе: ён ёсць *сцвярджальны* аж да апраўдання, аж да выкуплення ўсяго мінуўшага.

Я хаджу сярод людзей, як сярод абломкаў будучыні — той будучыні, што бачу я.

І ў гэтым мая творчасць і памкненне, каб сабраць і паяднаць у адно ўсё, што з'яўляецца абломкам, загадкай і жахлівай выпадковасцю.

І як мог бы я быць чалавекам, каб чалавек не быў таксама паэтам, адгадчыкам і выбаўцом ад выпадку.

*Выратаваць тых, што прамінулі*, і ператварыць усякае "было" ў "так хацеў я" — толькі гэта я назваў бы выбаўленнем.

* * *

**У другім месцы ён з усёй магчымай строгасцю вызначае, чым можа быць для яго "чалавек" — ні местам любові, ні местам спачування,** — і над *вялікай агідай* да чалавека паўстаў Заратустра гаспадаром: чалавек для яго ёсць бясформенная маса, матэрыял, бязвобразны камень, які патрабуе яшчэ скульптара. [...]

Я адзначаю апошні момант гледзішча: падкрэсленае дае разуменне яго. Для *дыянісічнай* задачы цвёрдасць молата, *радасць нават пры знішчэнні*, належыць рашучым чынам да папярэдніх умоваў, імператыў: "станьцеся цвярды!", самая глыбокая ўпэўненасць у тым, што ўсе *ствара́льнікі* цвярды, ёсць ісцінная адрозная прыкмета дыянісічнай натуры.

**Фрыдрых НІЦШЭ**




Алена НІЯКОЎСКАЯ



# "ВЯСЁЛЕНЬКАЯ НАВУКА"

Кожны значны філосаф прыходзіць у тую ці іншую краіну, калі ён там спатрэбіцца, калі яго паклічуць. І гутарка тут не аб інтэлектуальных гульнях эрудытаў, але аб асаблівым настроі, аб нейкай "камертоннасці" пачуццяў. Сёння мы ўспамінаем Фрыдрыха Ніцшэ. І хацелася б прасачыць шляхі, якімі ён прыйшоў на Беларусь.

Канец XIX — пачатак XX стагоддзя ў Еўропе. Крызісны стан маральнасці, культуры, рэлігіі, філасофіі. Рамантычныя мары аб звышчалавечых, "над-звычайных" вымярэннях жыцця і асобы. Новая духоўная рэвольта азначала канец веры ў неабмежаваныя патэнцыі розуму і навукі, якая "ўсё ведае і ўсё можа". У філасофіі, літаратуры, мастацтве цэнтральнай робіцца праблема чалавека, які мае асабістую патрэбу ў "высокай трагедыі", у абвострана пачуццёвым кантакце з усімі сіламі Сусвету, чалавека, які шукае і знаходзіць у сабе захапляючую прагу жыцця. Так, жыць у "масе" — бяздушнай, банальна думаючай, "арганізаванай" — цяжка. Але розныя бываюць цяжкасці. Абывацельскія няшчасці — не трагедыя, як бы кепска сябе ні адчуваў чалавек. Трагедыя дадзена не кожнаму. І ўвогуле — час вярнуць слову "трагедыя" першасны сэнс, бо трагедыя — толькі тады, калі сутыкаюцца лёс і воля. Трагедыя — толькі з сапраўднымі героямі. Ах, як хочацца сапраўднасці! Гэтае імкненне, гэтая ўсёпаглынальная ідэя ўзнікла і на Беларусі, але не ў літаратурных гуртках. Настроі, якія паклікалі да нас Фрыдрыха Ніцшэ, — ці не нарадзіліся яны ў дрымоце малых мястэчак, дзе моладзь раз на тыдзень выходзіла спаткаць і правесці вачыма "скоры транзітны"? — Не, усё растлумачыць навука не можа. Ісціна, як заўжды, не дзеліцца на розум без астачы. У астачы — зноў увесь чалавек з яго ўнутраным светам, як самадастатковая, незалежная істота, што можа ствараць сябе толькі для самой сябе... Чаканне вызвалення ад руціны, ад уціску — пабытова-сямейнага, культурнага, нацыянальнага, ад пагрозы растаплення асобы ў "знешніх" структурах, усяжэрных і абыякавых. (На руінах старажытных замкаў пасвяцца козы...)

... Найбольш напружанае чаканне — там, дзе пералом вякоў, дзе "памежжа часу" супадае з межамі культур і народаў, дзе самі абставіны жыцця штодзённа прымушаюць чалавека самавызначацца — гістарычна, нацыянальна, культурна, рэлігійна. Гэтае "памежжа" — выдатнае месца, арэна барацьбы "звышсіл" за чалавека. Да людзей, што адчулі знямогу чакання, прыйшоў Фрыдрых Ніцшэ з яго "fröhliche Wissenschaft", "вясёленькай навукай", энергіяй зямлі і жыцця. Няхай жыве жыццё — яно заўсёды мае рацыю, свабоднае ад насільных канструкцый! Жыццё, дзе мае значэнне кожная асабістая рыса, кожная дробязь, якая адрознівае мяне ад іншых. Усё, чым пагарджае розум, — цэніцца, і перш за ўсё — воля да жыцця, прага ўлады над абставінамі, што знішчаюць чалавечую "сапраўднасць". Няхай жыве "хаценне", далоў "стому няведання", бо з яе нараджаецца залежнасць ад багоў і свету!

Такая пазіцыя не можа не з'явіцца з імкнення радыкальна змяніць месца чалавека ў свеце, г.зн. пераўтварыць самога сябе, але не ў "масе". У сваім асабістым свеце можа чалавек паканаць гістарычную бязглуздзіцу, сацыяльны прымус, абсурд свайго залежнагіднага, "уключанага" існавання, прыйсці да дзяржаўнай, нацыянальнай, культурнай ідэі самастойна — як да поўні асабістай унутранай свабоды. Не бяда, што гэтае імкненне можа вырасці да самапрыгнёту высокай ідэяй, а потым — да "ўцёкаў ад свабоды"...

Не намагаючыся давесці нейкія "прыярытэты", хачу выказаць думку, што на Беларусь Фрыдрых Ніцшэ прыйшоў крыху іншымі шляхамі і ў іншы час, чым у цэнтральныя рэгіёны Расійскай імперыі. Увогуле ў Расіі шырокі інтарэс да Ніцшэ ўзнік на пачатку XX стагоддзя, напярэдадні і пасля рэвалюцыі 1905 г. Тады ж з'явіліся першыя пераклады яго твораў на рускую мову. Калі ставіцца да пытання фармальна, трэба было б прыняць, што тады ж узнік інтарэс да Ніцшэ і на Беларусі. Але гэта не зусім так. Па-першае, таму, што запатрабаванне на ідэі, блізкія Ніцшэ, узнікла ў нас пасля паражэння паўстання Кастуся Каліноўскага, дакладней, у пару культурна-філасофскага асэнсавання гэтага няшчасця. Гэта значыць, у 70 — 80-х гадах XIX стагоддзя. Разам з горыччу, недаверам да далёкіх ідэалаў пашыраецца і непрыняцце песімізму, жаданне

*"Мы мусім зразумець філасофію Ніцшэ як метафізіку суб'ектыўнасці".*

Марцін Гайдэгер

# ГАЙДЭГЕР ЧЫТАЕ НІЦШЭ

З філосафаў Новай пары Ніцшэ, бадай, найбольш прачытаны ды інтэрпрэтаваны (адсюль зусім не вынікае, што Ніцшэ ўжо *прачытаны*). Прынамсі, у XX стагоддзі яго не прамінуў, здаецца, ні адзін з буйных мысляроў, нават калі сёй-той і зрабіў выгляд, быццам "у вочы не бачыў" Ніцшэ...

І гэта натуральна, бо Ніцшэ — не філасофія, Ніцшэ — фатум, наканаванне еўрапейскага мыслення на аблом, які быў закладзены ў падваліны гэтага мыслення логацэнтрызмам грэцкай метафізікі і хрысціянскай міфалогіі. (Ніцшэ таясаміў іх зусім не выпадкова, цвердзячы: хрысціянства — гэта платанізм натоўпу.)

У гэтым сэнсе, у сэнсе аблому сітуацыі адпаведна перарахунку ўсіх духоўных каштоўнасцяў (вера, мараль, ідэалізм, эвалюцыянізм...), Гайдэгераўскае прачытанне Ніцшэ ўяўляецца ці не найбольш цікавым (не кажучы, што яно адно з найбольш грунтоўных — 2-томны курс лекцый і безліч паасобных выказванняў, апазіцый, рэмінісцэнцый, алюзій...). Ратуючы еўрапейскую метафізіку ад татальнага ці, хутчэй, фатальнага заняпаду, Гайдэгер паспрабаваў зразумець антрапалогію Ніцшэ, як запачаткаваны філасофіяй Платона канец метафізікі. ("На метафізіцы Ніцшэ філасофія заканчваецца".) Дзеля гэтага ён "вярнуў" Ніцшэ на кафедру (скуль той калісьці збег у "філосафы"), сабраў раскіданыя па прытчах канцэптуальныя метафары і згрупаваў іх у лагічна вывераную філасофскую сістэму, усе часткі якой жорстка дэтэрмінаваныя адносна адна адной. Такім чынам у Гайдэгера атрымалася прачытаць Ніцшэ так, як быццам той быў прафесарам філасофіі, а не філосафам (Кіркегар пра Гегеля), які абламаў з дрэва жыцця сухую галіну разам з гняздом спарахнелага Бога на ёй.

Аднак інтэрпрэтуючы Ніцшэ такім спосабам, Гайдэгер не меў намеру сцягнуць генія бунту з вышыні "6000 футаў над узроўнем чалавека" ды прыступак прафесарскай кафедры. Тут была іншая мэта — дапасаваць "канцэптуальныя персанажы" (Дэлёз) і канцэптуальныя метафары Ніцшэ да натуральнай яму, Гайдэгеру, стылістыкі мыслення, каб займець магчымасць пераадолець Ніцшэ. Не пераадолеўшы Ніцшэ (не перакана́ўшы свет, што Ніцшэ пераадолены), Гайдэгер не мог разлічваць на перамогу сваёй экзістэнцыянальнай анталогіі над запанаваўшай у першай палове XX стагоддзя экзістэнцыянальнай антрапалогіяй. Апошняе яму было неабходна дзеля таго, каб, аб'явіўшы праз Ніцшэ ("перакуленага Платона") канец *старой* метафізікі, запрапанаваць сябе на пачатак *новай* метафізікі...

(Гайдэгер — "апошні з магікан" метафізікі і адначасна яе Дон-Кіхот, які ў адсутнасці рэальных ворагаў змагаецца з ветракамі, абараняючы тое, чаго няма, што знесена пазалеташнім ветрам...)

Метафізіка — гэта тры запытанні: адкуль Усё, што такое Усё і навошта Усё? Аднак з таго, што гэтыя запытанні сфармуляваныя чалавекам і, напэўна, немагчымыя без чалавека, — метафізіка з найпершай і найвышэйшай "навукі" некалі мусіла згарнуцца ў адзін з раздзелаў антрапалогіі, бо перад тым як шукаць адказу на гэтыя запытанні, трэба запытацца: а чаму чалавек пра гэта пытаецца? У сваю чаргу тут папярэдне немагчыма абысціся без адказу на пытанне: што ёсць чалавек? а яшчэ раней: навошта ёсць чалавек? — паколькі наўрад ці можна вызначыць анталагічную сутнасць нечага, не ведаючы ягонага прызначэння.

Не ведаючы прызначэння чалавека лыга адно вызначыць, *які* ён — чалавек, а не *што* ёсць чалавек. На гэтым (немагчымасці ведаць *што* ёсць чалавек і веданні *які* ён чалавек) і пабудаваў сваю паэтызаваную антрапалогію Ніцшэ. Але для Гайдэгера антрапалогія гэта толькі "інтэрпрэтацыя чалавека, якая ў прынцыпе ўжо ведае, што такое чалавек", з чаго антрапалогія здольная хіба адно "забяспечваць запозненым веданнем самазабеспячэнне суб'екта". І таму Гайдэгер пацягнуў Ніцшэ, разам з ягонай антрапалогіяй, — наадварот, у метафізіку, бо толькі метафізіка "ёсць ісціна пра сутнае як такое ў цэлым". Паколькі "цягнуць" было далёка (высока?), то Гайдэгер "паадсякаў" у Ніцшэ ўсё жывое, цялеснае, цяжкае, — пакінуўшы адно суб'ектыўнасць суб'екта ды антрапалагізм антрапалогіі. А калі больш канкрэтна, то Гайдэгер вылучыў з усяго корпуса тэкстаў Ніцшэ пяць галоўных "рубрык" (выраз Гайдэгера): "нігілізм", "перарахунак усіх ранейшых каштоўнасцяў", "воля да ўлады", "вечнае вяртанне да таго ж самага", "звышчалавек".

Перад тым як зазірнуць у кожную з гэтых рубрык, звернем увагу, што **сярод "галоўных" — па Гайдэгеру — няма адной з бясспрэчна асноўных у Ніцшэ — "імаралізму". Нельга сказаць, што Гайдэгер зусім прамінуў "імаралізм", ён звяртае на яго ўвагу, але хутчэй адно каб засведчыць, што не забыўся пра "той бок дабра і зла" ў філасофіі** Ніцшэ. Прычына абыякавасці Гайдэгера да "імаралізму" ў тым, што ён увогуле ўнікаў этыкі як этыкі, для яго этычнае заўсёды заставалася залежным, падпарадкаваным анталагічнаму, бо паводзіны чалавека, згодна Гайдэгеру, абумоўленыя мерай адкрытасці чалавеку ісціны быцця, і велічыню гэтай меры вызначае не чалавек, а сама ісціна быцця.

Дарэчы, фундаментальная анталогія Гайдэгера наскрозь прасякнутая фаталізмам, які і "створаны" дзеля таго, каб татальна анігіляваць этычнае. І хаця ў тэрміналагічнай сістэме Гайдэгера гэтае слова (фаталізм) з'яўляецца рэдчас, да таго ж заўсёды на перыферыі тэксту, па сутнасці, яно пануе ўсюдна, бо, па Гайдэгеру, усё, што дзеецца ў існым, — адно праява ісціны быцця, у прасветах вялікай патаемнасці якога ўзнікае чалавек як пастух гэтай самай ісціны (Гайдэгер), і ніяк не самога сябе.

Закінуты ў быццё-тут чалавек ёсць толькі высветленая фатумам праекцыя ісціны быцця, і хаця Гайдэгер сям-там спрабуе нагрузіць чалавека ўласнай воляй ў быцці-для-сябе, звязаўшы гэта з "патрэбай", як з анталагічнай сутнасцю чалавека, аднак усялякі раз, наблізіўшы быццё-для-сябе да этыкі, — ён вокамгненна зблытвае этыку з анталогіяй і, забыўшыся на першую, бавіцца другой.

Паколькі Гайдэгер за анталагічным "света не бачыць", то, натуральна, найбольш істотнай для яго "рубрыкай" ніцшэўскай філасофіі сталася "воля да панавання", з якой Гайдэгер, сягаючы ў "дурную бясконцасць", выводзіць адзін з найбольш прыкметных повядаў сваёй анталогіі — волю да волі (ісціны быцця).

Але пачынае Гайдэгер інтэрпрэтацыю Ніцшэ не з "волі да панавання", а з аналітыкі "нігілізму". (Упершыню ў сучасным значэнні тэрмін скарыстаў Якабі, а зрабіў шырокаўжытковым, як вядома, Тургенеў.)

Рана ці позна еўрапейскае мысленне павінна было "выйсці" на нігілізм, паколькі ўсё яно знаходзіла сябе ў полі бінарнай апазіцыі паміж Нешта і Нішто. Наяўнасць апошняга (Нішто) прадвызначала з'яўленне нігілізму ў тым ці іншым акце драмы еўрапейскай метафізікі.

**Нігілізм — гэта той момант у гісторыі мыслення, калі мысленне раптам усведамляе, што каштоўнасці**, на якія яно арыентавалася, вядуць у нікуды, у Нішто, і таму трэба набрацца мужнасці і адпрэчыць іх.

" — Што па сутнасці адбылося? Пачуццё *некаштоўнасці* ўзнікла, калі чалавек зразумеў, што ні повядам "*мэты*", ні повядам "*адзінства*", ні повядам "*ісціны*" інтэрпрэтаваць сукупны характар існавання не атрымаецца. Нічога тым самым не атрымана і не дасягнута; не хапае ўсеахопнага адзінства ў множнасці таго, што адбываецца: характар існавання не "*ісцінны*", ён *аблудны* ... чалавек проста не мае ўжо аніякіх падстаў пераконваць сябе ў *нейкім* ісцінным свеце" (Ніцшэ).

А Гайдэгер сфармулюе з'яўленне нігілізму наступным чынам: "Нігілізм ёсць сама гісторыя існага, калі паволі, але нястрымна выходзіць у наяўнасць смерць хрысціянскага Бога" і чалавек застаецца самнасам са стыхіяй жыцця, па-за якой ужо нічога і нікога няма і не можа быць. Ёсць адно тое, што ёсць.

Нігілізм Ніцшэ — гэта не сфальсіфіка-

жыць, нягледзячы ні на што. Абуджаецца ўвага да ўсіх чалавечых якасцяў, усіх бакоў існавання чалавека, нават тых, якімі дагэтуль звычайна пагарджалі. Погляд пераносіцца з Сусвету на суб'ект. Асоба — з'ява унікальная, таму кожная яе рыса павінна быць значнай, тым больш калі гэта сведчыць аб волі да жыцця. Не барацьба супраць знешняга ўціску, але асабістае адмаўленне ад культу ахвярніцтва, пакаяння, нямоцы, прыніжанасці. Далоў далёкія мэты і ідэалы! Мэта і ідэал — само жыццё, сам чалавек, прагны жыцця... Па-другое, у гэты час яшчэ адчуваліся тыя гістарычна-культурныя традыцыі Беларусі, што звязвалі яе з інтэлектуальным светам Заходняй Еўропы. Ідэі Ніцшэ прыйшлі на Беларусь, падрыхтаваныя філасофіяй А.Шапэнгаўэра, дзе сутнасць свету — нерацыянальная воля, пазбаўленае мэты імкненне да жыцця. Разам з тым узнікае інтарэс да неарамантычнага мастацтва. Творы Р.Вагнера, Г.Ібсэна, К.Гамсуна, М.Метэрлінка дапамагалі выбрацца з пякельнага дэтэрмінізму, дэкляравалі "рух прарыву", вызвалення індывідуальнай волі з палону іерархічных структур. Гэтыя настроі, тыповыя для фармавання "нетрадыцыйнага", "мазаічнага" грамадства, сталі, як і ідэі Ніцшэ, формай непрыняцця сацыяльнага абсурда для значнай часткі беларускай інтэлігенцыі.

Трэба адзначыць, што сярод беларускай адукаванай публікі было нямала асоб польскамоўных і яшчэ больш — польскачытаючых. Гэтыя колы маглі даведацца аб Ф.Ніцшэ разам з заходнееўрапейскімі чытачамі ад шведскага пісьменніка Ула Хансэна. Яго кніга "Маладая Скандынавія" была выдадзена па-польску ў 1893 г. і змяшчала шмат звестак аб нямецкім філосафе. Першая змястоўная кніга аб творчасці Ф.Ніцшэ таксама была выдадзена ў Польшчы ў 1894 г., належала яна пяру Марыі Пшэвускай*. Але ўся польскачытаючая публіка найбольш даведалася аб Ф.Ніцшэ ад выдатнага паляка — Станіслава Пшыбышэўскага, палкага ніцшэанца, які распаўсюджваў ідэі свайго куміра з 1892 года**.

Імя Станіслава Пшыбышэўскага і сёння вядома не толькі вузкім спецыялістам у філасофіі і літаратуры. Філосаф, пісьменнік, музыкант-выканаўца, ён нарадзіўся ў Вялікапольшчы. Пісаў па-польску і па-нямецку. У сваёй творчасці быў звязаны з антыпазітывісцкімі плынямі і мадэрнісцкімі мастацка-філасофскімі коламі. Развіваючы погляды Фрыдрыха Ніцшэ, Пшыбышэўскі выступаў супраць ідэалагізацыі мастацтва, скіраванасці яго на мэты вузка-прагматычныя (палітычныя ці маральныя)***. Яго крэда — "голая душа", усе імкненні якой дэтэрмінуюцца падсвядомасцю. Гэтыя погляды, блізкія і да ніцшэанства, і да фрэйдызму, падзялялі многія абвяргальнікі "пазітыўных" вартасцяў на Беларусі. Ніцшэанства абяцала вызваленне з іерархічных структураў, з палону аўтарытэтаў — як ідэалагічных, так і навукова-пазітывісцкіх. На маю думку, беларускі філасофскі пазітывізм, не маючы дастатковай прыродазнаўчай базы, стаў метадам этнографаў і вычарпаўся, "растоплены" матэрыялам даследавання, які таксама не дзяліўся на розум без астачы, бо меў бясконца пачуццёвы характар. Гэтым самым быў абуджаны — праз этнаграфію, фальклор — інтарэс да "сапраўднага" чалавека, ва ўсёй глыбіні яго культурнай, гістарычнай, нацыянальнай адметнасці, ва ўсім багацці свядомага і несвядомага. Погляды "філасофаў жыцця", у тым ліку Фрыдрыха Ніцшэ, вельмі адпавядалі адраджэнскім настроям на Беларусі. Гэтыя погляды збіралі вакол адзінага стрыжня не толькі многіх мастакоў і філосафаў, але і пэўныя колы адукаванай і папросту чытаючай публікі, давалі напрамак і пачуццё іе інтарэсам да лінгвістыкі, псіхалогіі, філасофіі, літаратуры, музыкі, міфалогіі, старажытных моваў, нацыянальных культураў. Новая ступень беларускага нацыянальна-культурнага адраджэння не была б, можа, такой багатай без уплыву Фрыдрыха Ніцшэ — аднаго з самых прыцягальных і супярэчлівых філосафаў.

* Czeslaw Milosz. Historia literatury polskiej do roku 1939. Wyd. ZNAK, Kraków, 1993. —Str. 376.
** Тамсама
*** Stanislaw Przybyszewski. Confiteor. W: Wypisy z literatury polskiej i obcej. Od starożytnosci do wspolczesności. Warszawa, 19927 — Str. 334.

ваны мараллю гуманізм: дзейсны, жорсткі, загартаваны воляй да панавання чалавека над існым і Богам. "Усю прыгажосць і ўзнёсласць, якімі мы прыхарошылі рэальныя і ўяўныя рэчы, я хачу запатрабаваць назад як уласнасць і творыва чалавека: як яго цудоўную аналогію. Чалавек як паэт, як мысляр, як бог, як любоў, як магутнасць, улада — О, звыш таго ягоныя царскія шчадроты... якімі ён надзяліў рэчы, каб *збяднець* самому і *самому* пачувацца жабраком! Да гэтай пары ягонай найвялікшай бескарыслівасцю было тое, што ён здзіўляўся і маліўся, і ўмеў хаваць ад сябе, што гэта ён стваральнік Таго, чаму ён здзіўляўся" (Ніцшэ).

З усяго гэтага вынікае, што нігілізм — гэта воля да перарахунку ўсіх ранейшых каштоўнасцяў, якія татальна палягалі на пастулат наяўнасці жывога і ўсюдна прысутнага Бога.

Удакладнім: для Ніцшэ перарахунак усіх каштоўнасцяў азначае не адмаўленне ранейшых каштоўнасцяў, а адсутнасць таго месца, дзе яны выяўляліся, з якім стасаваліся і таясаміліся. Раней такім месцам быў Бог, ахапіўшы сваёй прысутнасцю як усё існае, так і ўсё пазаіснае. Але ў сітуацыі адсутнасці Бога каштоўнасці мусяць быць вымкнутымі ўжо не з трансцэндэнтнага, а з існавання існага, і — зарыентаванымі не на містычна ўяўлены Абсалют, а на самога чалавека.

Аднак хаця перарахунак каштоўнасцяў зарыентаваны на чалавека, сам чалавек не з'яўляецца галоўнай каштоўнасцю. Такую ролю цяпер (у сітуацыі адсутнасці Бога) адыгрывае воля да панавання.

Воля да панавання — гэта тое, што дазваляе існаму аб'яўляцца і быць як існае. Быць — гэта панаваць над нечым, найперш над не-быць, і таму воля быць — гэта аднačасна воля панаваць, уладарыць. Існае і аб'яўляецца як існае таму, што яно трымае ў прычыне сваёй прычыны волю да панавання. Воля да панавання не толькі вымыкае існае з патаемнага ў непатаемнае, але і рухае ўсім жыццём непатаемнага, бо панаваць — гэта несупынна вялічыць прастору і час сваёй прысутнасці.

Панаванне ў кожным моманце павінна пераўзыходзіць сябе цяперашняе, спыніцца для яго — значыць хіснуцца ў заняпад, саступіць больш моцнай волі да панавання.

Адным словам, усё, што ёсць, — пануе, і такім чынам воля да панавання робіцца сутнастваральнай асновай быцця без Бога. І значыць, на ёй, гэтай волі, цяпер мусяць палягаць усе каштоўнасці, з яе паўставаць і да яе вяртацца.

Паколькі волі да панавання, каб быць, заставацца, неабходна ўвесь час узрастаць у сіле, то ўсё, што ёсць, — не-ёсць, а толькі становіцца, адбываецца... Тут істотна не прамінуць наступнае: гэтае станаўленне (адбыванне) на подзе волі да панавання не ўяўляе сабой паступова-паслядоўны рух наперад. Прычына немагчымасці такога лінейна-эвалюцыйнага руху ў тым, што сусвет Ніцшэ абмежаваны наяўным існым, за якім — ужо казалася — нічога няма і не можа быць. Адсюль немагчымасць выйсці па-за межы існага ў нешта іншае, большае (Абсалют, Адзінае, Трансцэндэнтнае, Бог і да т.п.), — і таму быццё мусіць рухацца па кругу, раз-пораз вяртаючыся да свайго пачатку — "вечнае вяртанне".

(Ідэя "вечнага вяртання" Ніцшэ зініцыявала "філасофію абсурду" Камю і была, можа, найбольш нечакана інтэрпрэтавана Дэлёзам, які паспрабаваў давесці, што вечнае вяртанне — "выбарачнае". Не ўсялякая праява волі да панавання замацоўвае сябе ў быцці настолькі трывала, каб зноў адбыцца пры новым вяртанні гэтага быцця — негатыўныя сілы схільныя да самаадмаўлення. З чаго атрымліваецца, што негатыўнае не вяртаецца і, такім чынам, знікае з быцця. Негатыўнае — адмоўнае — і ёсць Ніштo. Адно толькі станоўчае, як праява існага — існуе заўсёды, але існуе не як тоеснасць, а менавіта як рознасць, што ўтварае магчымасць станаўлення, адбывання, быцця.)

Воля да панавання як галоўная дзейсная сіла, якой наканавана запанаваць над усім існым, мусіла абраць нешта, праз што гэтае наканаванне магло быць максімальна рэалізаваным. Такім абраннікам стаўся чалавек, але не той, што быў раней, з каштоўнасцямі, зарыентаванымі на наяўнасць наяўнага Бога, а новы чалавек, каштоўнасці якога ўжо фармаваліся воляй да панавання. Гэтага *новага* чалавека Ніцшэ назваў "звышчалавекам".

Звышчалавек — гэта персаніфікаваная воля да панавання, ён тое, што колькасна назапашвае і тым якасна вялічыць волю да панавання на зямлі. Таму каштоўнасць чалавека цяпер мусіць вымярацца, зыходзячы з гэтай ягонай функцыі, а значыць, для ацэнкі чалавека ўжо не падыходзяць тыя каштоўнасці, што набылі лігетымнасць (меру меры) у хрысціянскую пару.

Чалавек, які паслугуе Богу, — чалавек; чалавек, які паслугуе волі да панавання (як "волі да жыцця" — Шапэнгаўэр), —звышчалавек. Такога чалавека спакваля рыхтавала быццё, каб ён насцеж расхінуў дзверы ў патаемнае і вызваліў адтуль у непатаемнае не што іншае, як самую ісціну быцця.

"Цяпер дае пра сябе знаць тое, што Ніцшэ ўжо тады разумеў метафізічна, — што новаеўрапейская "механістычная эканоміка", суцэльны машынерны разлік усялякага дзеяння і планавання ў сваёй безумоўнай форме запатрабуе новага чалавецтва, якое выходзіць за межы ранейшага чалавека... Патрабуецца такое чалавецтва, якое ў самой сваёй аснове тоеснае унікальнай сутнасці новаеўрапейскай тэхнікі і яе метафізічнай ісціне; г.зн. — якое дае сутнасці тэхнікі цалкам авалодаць сабой, каб такім чынам непасрэдна самому накіроўваць і скарыстоўваць усе асобныя тэхнічныя працэсы і магчымасці. Безумоўнай "механістычнай эканоміцы" сумерны, у сэнсе ніцшэўскай метафізікі, толькі звыш-чалавек, і наадварот: такому чалавеку патрэбна машына для татальнага панавання над Зямлёй (Гайдэгер).

Прыкладна так Гайдэгер *чытаў* Ніцшэ... Але нават абярогшы сябе гэтым "прыкладна", нельга не ўсведамляць тую меру нахабства, якая ўсякі раз застаецца навідавоку, калі нехта на некалькіх аркушах паперы наважыцца прамаркіраваць лабірынты мыслення Гайдэгера (пэўна, куды больш заблытаныя, чым лабірынты цара Мінаса), якімі ён праз усё сваё жыццё намагаўся "выйсці" з Ніцшэ.

**Валянцін АКУДОВІЧ**

# Поль ВЕРЛЕН



***Ад яго жыцця жахаюцца,***
***а творчасці зайздросяць.***
***У яго была магчымасць жыць***
***нябедна — ён выбраў галечу.***
***Ягонае дзяцінства пачыналася,***
***як і любое дзяцінства — са***
***шклянкі малака, але ў яго***
***шклянку трапіла кропля абсенту.***
***Ён шукаў супакаення***
***ў жанчынах, і не толькі ў іх,***
***аднак жа знаходзіў супакаенне***
***ў алкаголі і ў паэзіі.***
***Любы парыжанін, нават і той,***
***які ніколі не чытаў яго вершаў,***
***ведае яго імя і можа паказаць***
***гасцініцу, у якой ён памёр,***
***а таксама кафэ, дзе яго***
***абралі каралём паэтаў.***
***Вандроўнік, уцякач, бяда***
***сям'і і родных.***
***Ён заўсёды ўцякаў — ад сям'і,***
***ад Францыі, нават ад паэзіі,***
***таму і быў каралём***
***без каралеўства.***
***Бог адчуў сябе пераможаным,***
***калі ўбачыў, што для яго:***
***вышэй за сям'ю — Францыя,***
***вышэй за Францыю — алкаголь,***
***вышэй за алкаголь — паэзія,***
***вышэй за паэзію — музыка...***
***Я пачаў перакладаць яго***
***вершы, адчуваючы, што ён дае***
***мне новае нараджэнне:***

***Зноў хваля, ператвораная ў камень,***
***Ударыла мяне.***
***Цяпер ляжаць мне ў элегічнай яме***
***На камяністым дне.***

***Каго, каго паклікаці, пазваці —***
***Набрацца родных сіл?!***
***Далёка бацька і далёка маці,***
***І Вольга, і Васіль.***

***А побач ты ў педагагічным змроку***
***Ля камяністых сцен.***
***І — музыка ў любым тваім уроку,***
***Настаўнік мой Верлен!***

***Нябёсы камяністыя над намі***
***Не скоцяцца далоў.***
***Пяю рамансы ў элегічнай яме,***
***Як ты вучыў, — без слоў.***

***Твая душа й па гэты час ад здзеку***
***Бароніцца ў журбе,***
***Бо цынік зноў мужчыну-недарэку***
***Вышуквае ў табе.***

***Твая бяда ва ўсіх французскіх трунах***
***Не менее ў цане.***
***Твой алкаголь у клавішах і ў струнах,***
***І ў каніфольным сне.***

***Імя тваё на вуснах у Еўропы,***
***Як васільковы лёд!***
***Калі растане — свежасцю акропіць***
***І мой гарынскі рот.***

***Я пэўны праз цябе, Верлен!.. Пакуль жа***
***На камяністым дне***
***Яе саму, яе дзяцей і мужа***
***Я бачу, як у сне.***

***Яна не набліжаецца, далей шчэ***
***За Вольгу, Васіля.***
***Ля ног яе жывая хваля плешча***
***Твайго, Верлен, святла.***

**Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК**

## МАСТАЦТВА ПАЭЗІІ

***Шарлю Морысу***

*Спачатку Музыка... І з ёй*
*Застанься і забудзь пра Слова.*
*Паветра, хваля — вось аснова*
*Дзеля паэзіі тваёй.*

*Гаворка — стыгма на шчацэ!*
*Не словы здабываюць складнасць —*
*Спявай і з'явіцца дакладнасць*
*З вакхічным кубкам у руцэ, —*

*І позірк юны праз вуаль,*
*І дзень арфічны ў струнах поўдня,*
*А, восенню п'яная, поўня*
*На зоры скідвае свой шаль!*

*Пусці адценне на парог!*
*Не колер, а яно ўладарыць —*
*Вядзе да шлюбу сны і мары,*
*І з флейтай паляўнічы рог!*

*Цынічны смех не для цябе,*
*А для якой часночнай кухні —*
*З ім вочы, плачучы, апухлі*
*І аддалі блакіт журбе.*

*Напышлівасць пятлёй здушы —*
*Няхай хрыпіць пустое горла,*
*Хай рыфму неспакой агорне,*
*Каб сон пайшоў з тваёй душы.*

*Хто рыфму даў на шкоду нам?*
*Які вар'ят, які прыблуда*
*Прывабіў нас фальшывым хлудам*
*І дуплы выглыбіў званам?*

*Дык Музыкі — на ўвесь твой лёс!*
*Тады душа ў лірычным цудзе*
*Нябёсы новыя здабудзе,*
*Каханне іншае ўсур'ёз.*

*Хай верш у добрых авантурах*
*І ў ранку ветраным жыве,*
*І ў мяце з кменам, і ў траве...*
*Астатняе ж — літаратура.*

1874

* * *

*У сне чарнее*
*Жыццё-скананне:*
*Засні, надзея,*
*Засні, жаданне!*

*Не бачу болей*
*І памяць трачу,*
*Ні зла, ні волі...*
*О, сум жабрачы!*

*Я стаў калыскай.*
*Мяне калыша*
*Рукой няблізкай*
*Ціша, ціша!*

1875

## МАРСКІ КРАЯВІД

*Звонкі акіян*
*У дрыжанні хваль*
*Топіць поўні жаль*
*І вачэй туман.*

*Навальнічны глыж*
*Коле папалам*
*Неба вечны храм,*
*Як руды гладыш.*

*Хваляў злы ўскалых,*
*Канвульсіўны шал*
*Паўз вышыні скал —*
*Не адной, а ўсіх.*

*На высокі суд*
*Да саміх нябёс*
*Ураган узнёс*
*Пекла страшны цуд!*

1865

## ФАЎН

*Гліняны фаўн стары*
*Смяецца, пэўна, з нас,*
*Вяшчуючы дары*
*Благія ў светлы час.*

*Удача ў нас адна,*
*Мы — сумныя з табой,*
*Ад нас бяжыць яна*
*На тамбурынаў бой.*

1868

## ЗНЯМОГА

***Жоржу Куртэліну***

*Я — сын імперыі перыяду скanання,*
*Як пры варварах, так і без іх*
*Складаю акравершы з дзён сваіх,*
*Стыль залаты пазычыўшы ў змяркання.*

*Душа тужлівая не ведае адхлання,*
*Зноў бачыць кроў на ўсіх шляхах цяжкіх.*
*Павольна кветкамі навін такіх*
*Ці акравершамі ўпрыгожваць існаванне?*

*Не марыць, не жадаць пра смерць,*
*пра цішыню!*
*Дапіта ўсё! Бацiл, твой смех падманны!*
*Дапіта, з'едзена! І словы ўсе сказаны!*

*Адзіны верш благі, што кіну да агню,*
*Адзіны раб ляны, што мне жадае гора,*
*Адзіны сум цяжкі, які сціскае горла.*

1884

**Пераклад з французскай**

ЗНО

Дыскурс

Юрась ЗАЛОСКА

# НАТАТКІ З "МАЛОЙ АЙЧЫНЫ"

## ("ГОРАД МІЛОСЦІ" — ІІ)*



1...

Разматітыя грамадствы ў галоўным (апроч тыпаў эканомікі, дзяржаўнага ўладкавання, сістэмы адукацыі і да т.п.) адрозніваюцца па *тыпах стаўлення да жыцця ўвогуле.* Абсалютна спажывальніцкае стаўленне да жыцця на ўсходзе Еўропы. У Цэнтральнай Еўропе, як гэта бачна хоць бы на прыкладзе Польшчы, — яшчэ захавана якаясьці — адчувальная — доля сакралізацыі ўсяго жывога, прыроды і чалавека. Тут зусім інакшыя і прырода, і чалавек — прынамсі, прырода не так панішчана, як у Айчыне. Нават пабытовыя дробязі, кухня, напрыклад, сведчаць аб пакрыёмым клопаце пра чалавека. І абсалютна інакшая, чымсьці дома, моладзь, — больш памяркоўная, спакойная, нармальная... Гэта людства, якое ведае вартасць жыцця і таму шануе яго нават у дробязях. У такім людстве пачувацца надзвычай лагодна і лёгка. Быццам спазнаеш забыты смак існавання.

* * *

"Аздараўляльнасць" за мяжою выяўляецца найбольш у імгненным асведамленні карэннай розніцы між побытам дома і тут, у замежжы. Дома процьма па сутнасці неабавязковых высілкаў выдаткоўваецца на пераадоленне дробязных неганаровых перашкод і замінанняў творчаму, г.зн. вольнаму жыццю. Тут, у замежжы, — усе замінанні раптам знікаюць, асыпаюцца як непатрэбны бессэнсоўны друз, — і ты ўздыхаеш з неймавернай палёгкай, думаючы па сутнасці пра тое ж, пра што думаў, аб чым хваляваўся там, дома. Толькі тут, за мяжою, шлях да думкі нашмат аблегчаны і карацейшы. І вітальны асяроддзем. Бо дома гэткі чын бадай нікому, апроч самога цябе, не патрэбны і прадстае занадта ўскладненай знешнімі фактарамі гульнёй. Дома гэткія "гульні" і сапраўды выглядаюць вар'яцтвам альбо абсурдызмам, хворым шалам інтэлекту — на тле "мірнадрэмнага" грамадства. За мяжою адбываецца нармальная, вартая ўвагі работа. Вось у чым розніца паміж Домам і Еўропай.

2...

... Здаецца, толькі цяпер, пасля дзён знаходжання тут, на Беласточчыне, на яе заходнім прыбелавежскім ускрайку — у Рыбаках над Нарвай (Наравам), у Польшчы, — зразумеў, што ёсць мая "малая радзіма". Гэта — пэўны абшар вакол Белавежскай пушчы (уключаючы, зразумела, і саму пушчу), на мяжы Гродзенскай і Брэсцкай абласцей Беларусі і Беластоцкага ваяводства Польшчы. Характэрныя рысы рэгіёна — лясістая мясцовасць, балоцістыя мясціны (але маючыя выразную мяжу, так што "суша" і "балота" не ўзаеманакладваюцца і існуюць самі па сабе); лагодныя, няшумныя рачулкі накшталт Нарава, з мяккай пяшчотнай вадой і дужа павольным цячэннем; пясчаныя, падзолістыя глебы, так што ўлетку здаецца, быццам небагатая травяная раслінасць на выганах спалена сонцам (рыхтык у Крыме); нарэшце мякка-змешаная шматскладовая мова, з уплывамі польскай, беларускай, "паляшуцкай", расейскай; царква, касцёл і пратэстанцтва, што суіснуюць поруч на надта невялікай тэрыторыі, у адным мястэчку ці сельсавеце... Суцэльная няпэўнасць, размытасць, зменлівасць і зменлівасць у павадках і пастасях людзей тутэйшых. І разам з тым — нораўная ўнутраная паслядоўнасць тутэйшага людства, спраўджаная як "рэч у сабе", "ноумен", а не "феномен"... Гэта — абшар пераходаў і змен, трансфармацый і трансмутацый; гэта сінтэз рознага і шматлікага. Гэта зачараванае царства дзяцінства, прастора саматоеснасці і таясамнасці прыродзе. Гэта міфічная запаветная зямля, да якой я прывязаны фактам свайго нараджэння і ўзгадавання.

У пару юнацтва, у пару сурай настальгічнай меланхоліі здавалася, што ўсё тое вяскова-дзіцячае страчана назаўсёды і ніколі не вернецца, што тыя першасныя каардынаты быцця непапраўна зліквідаваны самім ходам быцця. Але... зараз неўспадзеў цяміш, што тое было страчана *хіба ў тваіх вачах*, зацемненых асабістымі выпрабаваннямі, і што НІЧОГА НЕ ЗНІКЛА Ў РЭЧАІСНАСЦІ, усё прадаўжае жыць, існуе як ратаўнічы тыгель дзеля ачышчэння і вылекавання збеглых сыноў краю — пасынкаў Горада, адрачэнцаў Вёскі. Шанец вылекавання заўсёды ёсць. Ён знаходзіцца дома, на "малой радзіме". *Сапраўднае* не можа быць "вялікім" — яно толькі малое, нешматлікае: дом бацькоў, сад пры доме, выган вясковы, пах і рык жывёлы... Аблічча і галасы бацькоў, суседзяў, аднавяскоўцаў... Усё гэта — трансфармаваныя рэаліі колішняй пракаветнай родавасці, "пляменнасці", "першабытнасці", "паганьскасці", — усяго таго, да чаго ты прывязаны крэўна і, значыць, самa моцна. Сілком пазбавіцца фізічнай ці эмацыянальнай лучнасці з усім гэтым — тое самае, што здзерці з самога сябе скуру... *Магічная* повязь з родным застаецца дасконным тваім жыццёвым клопатам, можа нават — звышзадачай...

Вось так быццам збоку прыйшоў Воланд (у аблічча польскай фундацыі культуры, што запрасіла прыехаць у Польшчу) і неспадзявана аблегчыў перажыванні з нагоды радзімы; ты быццам вынырнуў з зацягненага нырца ў мёртвую ваду (Горада) і хапнуў доўгачаканага свежага паветра — у вёсцы, зноў падоўжыўшы біццё сэрца, аднавіўшы акрыленасць быццём...

3...

... Заўчора пан К. з Херсона прывёз вестку пра абранне прэзідэнтаў на Украіне і ў Беларусі. Улічваючы магчымасць самага неверагоднага далейшага развіцця падзей у Беларусі, тымчасам усведамляеш, што нацыянальны рух, *пра-elita* беларуская ўжо нізавошта не здасца і не растворыцца ў варунках магчымага культурна-палітычнага засілля; яна хутчэй загіне, але не паддасца на асіміляцыю і кампрамісы. Гэта пруткая, загартаваная сталь. Перакаваць яе на штосьці іншае без суцэльнай пераплаўкі матэрыялу — немагчыма. Так што маем перспектыву існавання "дзяржавы ў дзяржаве" — Дзяржавы інтэлектуалаў.

... А "прэзідэнта" абрала сабе *насельніцтва Беларусі*, а не — беларусы. Беларусь канчаецца перад мяжою заводскіх раёнаў гарадоў і ля парогаў рабочых інтэрнатаў, — гэта *яны* абралі сабе "прэзідэнта". Забойчы прыклад таго, як лёс краіны, лёс аўтахтоннага насельніцтва залежыць ад прысутнасці наноснага матэрыялу (дакладней — ад якасці наноснага матэрыялу: пад ім разумеецца найперш "наносная" ідэалогія, грамадская псіхалогія, маскультура...). Спадчына Саюза ССР "трымае сваіх мерцвякоў". Разумееш цяпер *часовую апраўданасць* знаходжання пры ўладзе нацыянальнага па пазіцыі палітыка (накшталт Шушкевіча), *не выбранага ўсенародна.* "Усенароднае абранне" абяртаецца ў нашым выпадку перамогай той вядомай "дз... ядзернай сілы", аб якой яшчэ на пачатку 80-х гадоў казаў Р.Барадулін...

* * *

Мы ідзём неяк услед за іншымі народамі, суседнімі краінамі... Мы як быццам спазняемся — даганяем іншых... Але мы ўвесь час рухаемся да ляпейшага ўладкавання свайго нацыянальнага быту, нацыянальнага жыцця; наш нацыянальны быт у XX стагоддзі — так атрымлівалася — выдае, уладкоўвалі прышлыя сілы, найбольш — бальшавізм. Самыя накінутыя формы грамадскага быцця, у палоне якіх апынуўся свет у XX стагоддзі, урэшце *аб'ектыўна станоўча* ўплывалі на станаўленне дзяржаўнай беларускай традыцыі (ад 1917-га да 1939 года; пасля другой сусветнай вайны; у 1990 — 1991 гадах...). Так ці інакш, беларусы пабочным "соизволением" атрымалі перш тытульна-нацыянальную рэспубліку (1918), затым — у 1939 годзе — цалкам аб'ядналі нацыянальны абшар, за выняткам нязначных асіміляваных суседзямі ўскрайкаў. Затым — уступленне ў ААН; затым — цалкавітая (дэкляраваная, праўда) незалежнасць у 1991 годзе. *Як бы не хочучы* ўсяго гэтага, беларусы, тым не менш, *усё гэта атрымалі.* Дык што гэта? Можа, спагаданне Вышэйшай Волі; можа, — боскі аванс на будучыя самастойныя мужныя крокі? Так ці інакш, але гэткі парадак уладкавання нацыянальнага быту мае тую загану, што ёсць небяспека захавання *несамастойнасці* народа і надалей; апроч таго, увесь час існуе небяспека скасавання здабытага ўзроўню нацыянальнай дзяржаўнасці пабочнымі — мацнейшымі і агрэсіўнымі — сіламі. Апошні выпадак адбываецца зараз, улетку 1994 года (міжвольная асацыяцыя з 1794 го-

---



Сяргей МІНСКЕВІЧ

# АРТ-КУЛЬ № 2

Арт-куль № 1 быў зьмешчаны ў літаратурна-філязофскім сшытку газэты "Культура" "ЗНО" за 31 жніўня 1994 г. і называўся "У глыбіню праз далягляд" . У ім акрэсьліваўся выяўлены мастацкі мэтад — транслёгізм. Мяркуючы па рэфлексіях, зьмешчаных паабапал арт-кулю, і рэзанансу па-над ім, маем неабходнасьць працягнуць пісьмо на той жа тэмат.

Каб зраўняць шанцы ўсіх шляхоў-тунэляў успрыманьня транслёгізму пасьля завабліва пракладзенай каляіны азначэньня яго як "контррэфармацыя постмадэрнізму на подзе атавістычных рэшткаў мадэрнізму"(В.Акудовіч) і папярэдзіць "павальнае" зьязджаньне на яе індывіДУюМНАЙ ДУМКІ паводле дзеяньня закону найменшага супраціўленьня, мы мусім зноў вярнуцца да нашага (транслёгічнага) адчуваньня постмадэрнізму і мадэрнізму і зладзіць яшчэ адну праэкцыю самога транслёгізму.

Знаходзячыся ў прапанаваных тэрміналёгічных каардынатах, мы павінны вытлумачыць: што такое для постмадэрнізму "атавістычныя рэшткі на подзе мадэрнізму".

І вось, прааналізаваўшы нават самыя яркія праявы постмадэрнізму, разумеем, што, напрыклад, для рамана У.Эка "Імя ружы" "атавізмам" (у дадзеных каардынатах) выступае... дэтэктыўны сюжэт, для "Хазарскага слоўніка" М.Павіча — сама пабудова рамана (у выглядзе слоўніка), бо дэтэктыў і слоўнік спараджэньне эры мадэрнізму. Увогуле, уважліва праглядаючы на дадзеных падставах узгадваемую ў першым арт-кулю табліцу Іхаб Хасана, прыходзім да парадаксальнай высновы, што сам факт стварэньня (новага), а для літаратуры — пад гэтым працэсам разумеецца пісьмо (пісаньне (нават запаўненьне прасторы знакамі)) — зьяўляецца якраз тым самым "атавізмам". (Пісаньне — мадэрнізацыя чыстага аркуша паперы.)

І тады нам хочацца павіншаваць беларусаў, таму што менавіта на іх зямлі быў народжаны першы ў сьвеце твор "чыстага постмадэрнізму".

Гэты твор паслужыць нам добрым наглядным прыкладам для дасягненьня вышэйадзначанных мэтаў.

1 красавіка 1994 года на вечарыне табала "S-тэт" пад назвай "Ачмурэлы чорны вечар", што адбывалася ў Менску ў тэатры "Вольная сцэна", паэт Алесь Туровіч прадэманстраваў свой новы твор — чысты аркуш паперы. Вядома, што нічога новага тут няма, што яшчэ ў 1918 годзе эго-футурыст Васіліск Гнедаў у Пецярбурзе чытаў свой чысты аркуш, які называўся "Паэма канца". Так, мэтай А.Туровіча не было паказаць стварэньне чагосьці звышарыгінальнага, яна тлумачылася як звычайны перанос незвычайнай зьявы на беларускую глебу — ледзь не пераклад "Паэмы канца" В.Гнедава ў беларускую мову. Карацей кажучы — запаўненьне мадэрніскай пустэчы на Беларусі.

Але ўжо 17 красавіка 1994 года ў Вітэбску на паэтычнай вечарыне Таварыства Вольных Літаратараў той жа А.Туровіч прадэманстраваў новы твор, які па праву можна лічыць ЧЫСТЫМ ПОСТМАДЭРНІСКІМ ТВОРАМ. Гэта быў



чорны аркуш паперы — скрозь тэкстуалізаваная старонка, у якой, па словах Мікеланджэла, калі прыбраць усё лішняе, паўстане сам твор (напісаны, да таго ж, як заяўляў А.Туровіч, граматыкай Б.Тарашкевіча). Але рэч у тым, што сам А.Туровіч на аркушы паперы нічога не пісаў (не маляваў), бо цалкам сьпісаны алоўкам аркуш паперы — гэта звычайная капірка, якая і дэманстравалася публіцы і нават па жаданьні даравалася з аўтографам аўтара.

Бессумніву, капірка-чорны-аркуш паперы — самы чысты постмадэрніскі твор. Бо ён падыходзіць пад яго тэзы і самае галоўнае — ёсьць СТВАРАЛЬНІК, ЯКІ СВОЙ ТВОР НЕ СТВАРАЎ. (Хоць белы аркуш паперы ні А.Туровіч, ні В.Гнедаў таксама не стваралі, але яны на ім... пісалі — пісалі прабелы — знакі паўзы, маўчаньня. А на капірцы-чорным-аркушы ўжо ўсё было "напісана").

І ўсё ж такі гэты "самы постмадэрніскі твор" зьяўляецца транслёгічным, і не толькі таму, што гэтак жадае аўтар, а яшчэ і таму, што існуе транслёгічны антанімічны пераход паміж белым і чорным; таму, што існуе трансвыяўленчы пераход (узгадаем чорны квадрат Малевіча) і г.д.

Цяпер, падаецца, аўтаматычна адпадае ад транслёгізму і дэфініцыя "контррэфармацыя постмадэрнізму"... (Можа, лепей было б трансрэфармацыя.)

Зразумела, чаму ўзьнікла гэтая дэфініцыя, бо пры дыферэнцыяваным разглядзе тэзаў першага артыкулу гэткае сьцьверджаньне вынікае быццам само па сабе, але форма артыкулу рыхтавала не дыферэнцыяванае, а інтэгральнае іх успрыманьне, хаця пры простым выкладаньні на плоскім газэтным аркушы дасягнуць інтэгральнага ўспрыманьня тэксту амаль немагчыма. ( Для атрыманьня правільнай карціны ўсе тэзы транслёгізму: з постмадэрніскімі і мадэрніскімі рысамі трэба было запісаць унутры сфэры ў n-мернай прасторы, дзе n — колькасць тэзаў. А гэта магчыма толькі з дапамогай камп'ютэра.) Таму для яскравасьці прывядзем адно прараўнаньне. Транслёгічны твор — нібы эмбрыён чалавека (ці іншай істоты) у развіцьці: вось у яго жабры, плаўнікі, але ідзе час (для твора — чытаньне-разуменьне), плаўнікі пераўтвараюцца ў пясьці, рукі, жабры ў лёгкія, але зьяўляецца хвост, потым і ён зьнікае і ствараецца вышэйшая істота. Пры дыферэнцыяцыі, спыняючыся на розных этапах, мы, абавязкова, бачым усе "атавізмы", адчуваем іх, успрымаем, але "засядаць" на іх — гэта памылка. Трэба ісьці далей, да інтэграцыі, каб бачыць агульную панараму (цалкам народжаную істоту).

У транслёгічных творах, у адрозьненьні ад таго ж разьвіцьця эмбрыёна, пераход (пераходы) могуць адбывацца няпросталінейна, незаканамерна, адначасова на розных узроўнях.

Безумоўна, успрымаць пераходы даволі складана, для іх неабходна валодаць унутраным (мысьленным) зрокам, які набліжаецца да ўнутранага зроку дэмана Максвела*. Але транслёгічныя творы даюць шанц наблізіцца да яго.

Галоўным "нэавізмам" транслёгізму выступае перадача ўсімі сродкамі плыннасьці (пера-цякучасьці)

формаў

сэнсаў

асацыяцыяў

рэальнасьцяў,— створаных з "адтулінаў-адсюлінаў", і да ўспрыманьня якіх не рэкамендуецца падыходзіць статычна; імкненьне да рухомасьці ня толькі вобразаў, тыпаў, формаў у самім творы, але і за яго межамі; імкненьне дасягнуць рухомасьці думкі ўспрымальніка.

---

* "Дж.Максвел увёў у побыт абстрактных фізіка-тэарэтычных разважаньняў уяўную істоту — якую пазьней назвалі "дэман Максвела". Гэты дэман адрозьніваецца тым, што яму магчыма практычна ўсё: назіраньне за жыцьцём асобнага атама, палёт з хуткасьцю большай за хуткасьць сьвятла, здольнасьць выхадзіць непашкоджаным з розных пераўтварэньняў..." Кузовкин А.С.,Семенов А.Е."Параллельные миры, или Попытка рассмотрения возможных форм жизни в космосе и на Земле". М.: "Знание",1990. С. 39.

дам...). Зрэшты, другое звычайна толькі каталізуецца першым — несамастойнасцю народа. І гэта нараджае даўно вядомую лагічную нявыкрутку: каб быць свабодным, трэба вартасць свабоды ўсведамляць; а каб усвядоміць свабоду як вартасць, трэба стан свабоды спазнаць... Але ўрэшце, ідучы за іншымі народамі рэгіёна, паўтараючы вопыт суседзяў (прытым унікаючы іх памылак), — мы мякка плануем да нейкай пасадачнай пляцоўкі. Якой яна будзе — пакажа толькі час...

### 4...

Знаходзячыся, жывучы адно дома, ты неўзабаве стаешся палоннікам наступнага заганнага ўспрымання рэчаіснасці: да цябе ідуць імпульсы толькі ад тутэйшага абшару, і ў хуткім часе ты глядзіш на свет вачыма, што звыклі бачыць адно толькі тутэйшае. Атрымалася замкнёнае кола: край — ты, ты — край; а што за краем — не для цябе... Гэта і ёсць выпадак *правінцыялізму*, альбо мястэчковасці (і побыту, і мыслення). Перцэпцыя (успрыманне) свету патрапляе ў экзістэнцыйны тупік, нявыкрутку, няздольнасць набыць "дэмакратычную" якасць. З гэткага стану магчыма выйсце толькі адно — шляхам актыўных стасункаў з акаляючым асяроддзем, з народамі, што жывуць поруч, з рэгіянальным абшарам (у нашым выпадку — цэнтральна-ўсходнееўрапейскім). Гэта зусім не "касмапалітызм", заўжды разуметы толькі ў піку "патрыятызму", гэта — патрыятызм дасканалы, не абмежаваны акрэсамі твайго мястэчка; гэта, больш таго, *праўдзівая зрэалізацыя экзістэнцыялу асобы* (маючца на ўвазе найшырокія быццёвыя магчымасці чалавека). А яшчэ ж можа быць пераход не толькі цераз гарызантальныя межы — вёска — мястэчка — места — краіна —рэгіён — кантынент — свет, яшчэ можа адбывацца і рух па вертыкалі, уверх, з аднаго ўзроўню спазнання і асэнсавання вёскі — мястэчка — места — краіны — рэгіёна — свету, — на вышэйшы... Так што мяжы дасканаласці ў засваенні акаляючай рэчаіснасці можа не быць; усё залежыць толькі ад тваіх асабістых памкненняў, ад ускрайку тваёй асабістай рэгсерсіі свету...

### 5...**

На прыкладзе культурнай дзейнасці палякаў бачыш, што значыць праўдзіва клапаціцца аб культуры, працаваць у культуры. (На Беларусі надзвычай пашырана выслоўе "Служыў культуры..." Як быццам культура — нешта аб'ектыўна-дадзенае, накшталт завода, які вымагае доўгатэрміновай статычнай "службы"...) Праца ў культуры на польскі кшталт — гэта найперш вялізарная і потым усвядомленая як належнае АДКАЗНАСЦЬ; гэта напружаная работа розуму над сітуацыяй у дзяржаве, рэгіёне і свеце; гэта *ўсёчасная работа розуму над асэнсаваннем жыцця ўвогуле*, прадумваннем яго, жыцця, перспектыў. Гэта адсутнасць апеляцый да нейкай абстрактнай статычнай усеагульнай "культуры"; гэта — штодзённае т в а р э н н е той самай культуры і апеляцыі толькі да плёну *сваіх асабістых* высілкаў у пэўнай дзялянцы мастацтва ці навукі, а не да ўсеагульнай ананімнай "культуры".

Праца ў культуры на польскі кшталт — гэта ўсёчасная работа розуму, не зважаючы на як быццам міжнародны ці то рэгіянальны палітычны "зацішак" альбо няпэўнасць; гэта ў выніку *разумовае* пераадоленне таго "зацішку" ці няпэўнасці. І тады краіна твая не апынецца заложнікам "непрадбачанага развіцця падзей" — бо яны, падзеі, будуць своечасова прадбачаны і спрагназаваны, прадуманы наперад; тады твая краіна здабудзе з надышоўшых "перамен" і "ўскладненняў" найбольшую карысць дзеля свайго геапалітычнага і культурнага мацавання. Толькі дурань лічыць, што сіла — гэта сёння і назаўсёды; сіла — гэта ўчора і заўтра, павязаныя неаслабнай работай свядомасці і ўсёчасным шуканнем Сэнсу ў неакрэсленым і няпэўным сёння... Мне вельмі шкада, што Беларусь у гэтым сэнсе ўяўляе сабой досыць пуставаты абшар. Абшар, які аб'ектыўна таму падпадае пад "апеку" пабочных сіл — альбо расейскай, альбо польскай (часткова і ўкраінскай нават) культурнай і палітычнай свядомасці. Адвечны праклён адказных беларусаў — паміж двума полюсамі ўвагі ды без свайго полюса прыцягнення...

### 6...

Адзіны які-кольвек падтрымальны фактар — на фоне агульнай бязрадаснасці ў дачыненні да ўсведамлення бліжэйшых перспектыў Бацькаўшчыны — гэта разгляд геаграфічных мапаў; як бы ні былі далёкія ад "беларускага нацыяналізму" тысячы гайдукевічаў, самасевічаў і дубіцкіх,— усё роўна невынішчальным "здраднікам" *усё ж беларускасці іх* застаецца мапа. Назвы вёсак, засценкаў, рэк і азёр выдаюць паходжанне з іх абшару людзей. Гэта той аб'ектыўны "знакавы" фактар, што дае хоць нейкую падставу для ўнутранай упэўненасці ў непрымроенасці Бацькаўшчыны, — у рэальным, не кніжным, грунце быцця Беларусі як краіны. Нават у выпадку зліквідавання гэтай — на сёння — квазікраіны, — мапы захаваюць невытручальныя сведчанні Беларусі ідэальнай... *Усё ж Беларусі.*

### 7... (P.S.)

Сэнс паездак на міжнародныя навуковыя сустрэчы — прынамсі, з удзелам беларусаў, украінцаў і палякаў, — палягае найперш у засваенні моў суседзяў. Бо ўсё-такі МОВА вучыцца і папраўдзе ўспрымаецца ў МАЎЛЕННІ; дома ж іншамоўнага асяродку мы канешне пазбаўлены, мы — аднамоўныя. Але ў сутнасці сапраўдная каштоўнасць, існасць мовы выяўляецца ў варунках ПОЛІФАНІІ, многагалосся; калі ўзаемаперапляtaюцца, пеаргукваюцца розныя мовы (блізкія, але ўсё ж розныя — польская, беларуская, украінская). Тады, як з уласнага досведу ведама, узнікае стэрэафанічны эфект у маўленні. СЭНС тады пачынае фармавацца аб'ёмна, працінаючы ўвесь моўны асяродак. Канкрэтнаслоўнікавае значэнне слоў як бы адыходзіць на другі план, робіцца неперaшаступенным. СЭНС даходзіць з нейкіх унутраных спалучэнняў розных моўных плыняў і ўспрымаецца не рацыяй, а —падсвядомасцю, спасцігаецца моўнай інтуіцыяй. У такім моўным існаванні — найвялікшая асалода для ўдзельнікаў падобнага дыялогу...

* Запісы зроблены падчас побыту ў Польшчы, на музыкалагічным сімпозіуме ў Рыбаках над Нарвай (ліпень 1994 г.)

** Ахвярую Л.Корань

---

Віктар ШНІП



# ШНІПАЎКІ



## НАТОЎП

*натоўп тоўпіцца*
*незадаволена гудзе*
*натоўп гэта яшчэ не народ*
*але калі натоўп сабраўся*
*на пляцы*
*і над сабой трымае сцягі*
*і плакаты*
*і калі сярод натоўпу ёсць тыя*
*што думаюць і ўмеюць*
*выступаць і выступаюць*
*натоўп набывае рысы народа*
*і над ім сцягі і плакаты*
*нагадваюць пару*
*якую трэба час ад часу*
*выпускаць*
*каб не адбыўся выбух*
*натоўп гэта сабака*
*якому вельмі хочацца каўбасы*
*таму дзе натоўп там*
*і міліцыя*
*натоўп як агонь нельга чапаць*
*натоўп як пчаліны рой*
*і я стаю ў гэтым натоўпе*
*і я магу пайсці з яго і нічога*
*не зменіцца*
*натоўп застанецца натоўпам*

## ВАДА

*паміж спякотай і спякотай*
*як паміж берагамі*
*вада*
*вада ратуе ў час смагі*
*вада губіць у час патопу*
*вада гэта пекла*
*якога баіцца бруд*
*вада гэта рай*
*у які імкнуцца ўсе*
*і я стоячы на беразе ракі*
*і гледзячы ў бок адкуль цячэ*
*вада*
*бачу свае мінулае*
*і гледзячы ў бок куды цячэ*
*вада*
*нічога не бачу*
*акрамя вады*
*якая ратуе ў час смагі*
*якая губіць у час патопу*
*якая ратуе*
*якая губіць*





## ЦЕНЬ

*цень хамелеон*
*які мяняе не колер а памер*
*ад ценю як ад свайго "я"*
*нікуды не ўцячы*
*цень пільнуе*
*цень не крыўдлівы*
*галоўнае каб было сонца*
*цень цярплівы*
*і не разабрацца што яму*
*падабаецца больш*
*я ці сонца*
*цень лянівы*
*цень прыліпала*
*цень дражніцца*
*і яго можна павесіць*
*але толькі павесіўшы сябе*

## ДОЖДЖ

*як трава імкнецца ў неба*
*так дождж імкнецца ў зямлю*
*ахвяруючы блізкасцю да Бога*
*дождж падобна матылю*
*пакінуўшы ўтульнае месца*
*не помніць кім ён быў нядаўна*
*а ляціць як матыль на агонь*
*на святло кветак*
*і часцей не тады калі просяць*
*а калі жнуць і косяць*
*і бегае па хмарах маланка*
*з ліхтаром*
*і злуецца гром вартаўнік*
*вінавацячы адзін аднаго*
*ў недаглядзе*
*а дождж радуецца*
*дождж вырваўся на волю*
*а я ад дажджу схаваўся*
*пад дрэвам*
*а дрэва мне шапоча*
*не хавайся пад маю крону*
*бо мяне любіць маланка*
*бо мяне любіць гром*
*палюбі дождж і дождж цябе*
*палюбіць*
*і я люблю дождж*
*і ведаю што ў дажджа любоў*
*халодная*
*хаця і светлая як сам дождж*
*які нечакана з'явіўся*
*і нечакана знік*



---

Алесь ТУРОВІЧ

# QUARTUM ORGANUM

## /Транслагізм, трэці опус/



Сёмага кастрычніка ў рэспубліканскім тэатры "Вольная сцэна" адбывалася адкрыццё сезона. Можна было паглядзець спектакль па п'есе Раісы Баравіковай "Барбара Радзівіл" і выставу твораў мастакоў Валянціна і Ляілі Варэцаў. Перад адкрыццём выставы і пачаткам спектакля праводзілася экс-канферэнцыя-прэс літаратурнага згуртавання пры тэатры табала "S-ТЭТ". Маладыя тэкставікі агучвалі свае творы. Канферэнцыя адбывалася ў фае, кожны мог падысці і выслухаць пэўную порцыю матэрыялу. Аўтары па чарзе чыталі і, забыўшыся на публіку, знерухомвалі ў манекенавых позах, канцэнтруючы ўвагу на сваёй дзеі.

На стале павінны былі ляжаць белы, чорны і пусты аркуш паперы. У свой час з'яўленне белага і чорнага аркушаў суправаджалася невялікімі лекцыямі. "Пусты аркуш" — выразаная з паперы рамка — ніяк не маніфеставаўся, ён выйшаў за межы вербальнага прагаворвання і зрокавага паказу.

Але аркушаў не было на стале, аўтар забыўся пакласці іх на стол, яны засталіся ў тэчцы. Знак Пустога аркуша праяўляецца толькі ў гэтым пісьме.

Белы аркуш — Транслагізм /далей ТМ/ у разрэзе авангарду. Чорны аркуш — ТМ у паліформнасці постмадэрнізму. Пусты аркуш памножаны на аўдыторны кантэкст — уласны выбух ТМ.

Практыкаванні для паўтору:
...тактактактак...ТАК...тактактак ...АКТ[1]...тактактактак Z KAT...тактак...

/ ... /[2]

1. А ЁСЦЬ А
А НЕ ЁСЦЬ НЕ А
КОЖНАЯ РЭЧ ЁСЦЬ А ЦІ НЕ А.
/Арыстоцель "Organon"/
2. ШТО БЫЛО А, ТОЕ І БУДЗЕ А
ШТО БЫЛО НЕ А, ТОЕ І БУДЗЕ НЕ А
КОЖНАЯ РЭЧ ПАВІННА БЫЦЬ А ЦІ НЕ А.
/Бэкан "Novum Organum"/
3. А ЁСЦЬ І А, І НЕ А
КОЖНАЯ РЭЧ ЁСЦЬ І А, І НЕ А
КОЖНАЯ РЭЧ ЁСЦЬ УСЁ.
/Успенскі "Tertium Organum"/[3]
4. А.
/ТМ/

Тлумачальная запіска:

"А ёсць А, А не ёсць А, кожная рэч А ці не А (А ёсць і А, і не.) Што было А, тое і будзе А, што было не А, тое і будзе не А, кожная рэч павінна быць А ці не А. А ёсць і А, і не А, кожная рэч ёсць і А, і не А, кожная рэч ёсць усё... аёсцьаанеёсцьакожнаярэчацінеаштобылоатоеібудзеаштобылонеатоеібудзенеакожнаярэчпавіннабыцьацінеааёсцьіаінеакожнаярэчёсцьіаінеакожнаярэчёсцьусё... А ёсць не А, А не ёсць А, кожная рэч А і не А, што было А, тое не будзе А, што было не А, тое будзе А, кожная рэч павінна быць А і не А. А не ёсць ні А ні "Не А", кожная рэч ні А, ні "не А", ніякіх рэчаў навогул не існуе,— О /як гук і як "ноль"/".

Калі усё гэта разам узяць, то атрымліваецца проста А. Толькі як графема, як канцэпт. Фактычна ўсе лагічныя пошукі мелі перад сабой мэту пазбавіцца ад логікі, перайсці на інтуітыўнае ці якое там мысленне, якое б дазволіла пазбавіцца антыноміяў і сафізмаў. Мы бярэм як спробу пераходу, мантрызацыю аб'екта з першаэлементу самога дыскурса логікі.

Фізікі вынайшлі, што калі на пэўны аб'ём рэчыва паўздзейнічаць з пэўнай сілай /на выпраменьванне якой, на жаль, не хопіць рэсурсаў сусвету/, то можна стварыць такім чынам новы Вялікі Выбух і новы Сусвет. Усе літары ўзніклі з камбінацыяў простых фігур /крыж, кола.../. З ціску ўвагі на крыж узнікла абэцэда, яна стварыла літары і парадак іх размяшчэння, лічбавую сістэму. + — А — усё астатняе. Пачатак высветлены. Праблема ва ўсведамленні далейшых заканамернасцяў. Вядомыя заканамернасці ўвесь час праігрываюцца ў свядомасці семантыкай першай і цэнтральнай пазіцыі алфавітаў. /"Азбука", "абэцэда" — семантызаваныя першыя знакі; "элемент", "элементарны"... — семантызуецца цэнтр.../[4]

Семантызацыю апошніх знакаў правесці пакуль што не атрымлівалася /X,Y,Z/. Апошнія літары існуюць у памяці со школьных часоў ("экс", "уай", "зэд"), аднак не ўтвараюць агульнага сэнсу. Скарыстоўваючы метад ТМ [1], атрымліваем ХУЗ — ЗУХ.

У беларускай мове гэтыя гукі сплятаюцца ў канкрэтнае слова "бойкі, спрытны чалавек".

Такім чынам выкрышталізоўваецца першы акорд /"тоніка"/ для семантызацыі алфавіта і рэчаіснасці ўвогуле:

"Абэцэда" — першапрычына, слова, абстракцыя;

"Элемент" — найменшая дробная адзінка, пераход ад хвалі да матэрыяльнага аб'екта;

"Зух" — чалавек, разумовая істота, якая пераварочвае і прачытвае свет і з'яўляецца адзінкай гэтага свету.

[1] Мінскевіч С."У глыбіню праз далягляд" // "Культура" N 35 ад 31 жніўня 1994 г.

[2] Актуалізацыя запісу не раней 2001 года. Хоць дэшыфроўка і ёсць.

[3] Успенский П.Д. "Tertium Organum", СПб, 1992. С. 172,184.

[4] Степанов Ю.Д., Проскурин С.Т. "Константы мировой культуры..." М,1993. С.75-89.

# УСТУП

Гэтаю падборкай "ЭЎРОФОРУМ" (Цэнтар Эўрапейскіх Досьледаў і Культурных Ініцыятываў) распачынае праграму "Сучаснае мысьленьне".

Сама праграма мае на мэце два памкненьні, што нібыта пярэчаць адно аднаму.

Адно зь іх, — гэта асьветніцкая задача знаёмства беларускай гуманістыкі з мэтадалягічнымі "прарывамі" й "рэвалюцыямі" дваццатага стагодзьдзя, з рэальнай сытуацыяй "людзей, што спрабуюць думаць". I безумоўна, стрыжнем ды апірышчам для нас, у рэалізацыі гэтай задачы, — пераклад і вытлумачэньні сучасных філязофскіх тэкстаў.

Але ня толькі й ня столькі.

I тут мы пераходзім да другога памкненьня. Гэта — *уласна мысьленьне*, тут і цяпер, у нашае прасторы і ў нашым кантэксьце.

Наіўна і неарыстакратычна было б думаць, што *ўласна мысьленьне* магчымае адно пры "дастатковых" перадумовах, адно пры глыбокай і бесперарыўнай нацыянальнай традыцыі, альбо што мысьленьне шукае толькі "вяршыняў" і "глыбіняў", якія, да таго ж, мусяць быць прызнаныя ў якасьці гэткіх нейкімі аўтарытэтнымі інстанцыямі.

Рэч у тым, што ў мысьленьня няма лінейнае перспектывы, выбранага назаўсёды топасу альбо пэўнае стылістыкі. I ў гэтым сэнсе Плятон можа раптам стацца нашым сучасьнікам, большым за астатніх, а Чжуан-Цзы з Гераклітам — магчыма аб'явяцца ў футурыстычных прагнозах. Да таго ж ляндшафт сутнаснага мысьленьня складаецца ня толькі з вяршыняў ды глыбіняў, — ён насампраўдзе мае безьліч пераходных зонаў, завулкаў, тупікоў і пустэчаў. Ляндшафт гэты розьніцца й адрозьнівае, — але ў якасным, а не ацэначным вымярэньні. Адзінае сапраўды істотнае ацэначнае разрозьненьне, якое гэты ляндшафт прымае, — гэта паміж тымі, хто сапраўды блукае й патанае часам у гэтых тэрыторыях, — і тымі, хто адно назірае за гэтым зь бясьпечнае дыстанцыі ў квазі-аб'ектывісцкі бінокль.

Таму адно з жаданьняў, якое хацелася б зьдзейсьніць, —гэта пасьлядоўна й эфектыўна выводзіць філязофскія тэксты з пэрспэктывы "прадуктаў культуры", "прадмету" гісторыка-філязофскага альбо гісторыка-культурнага працэсу, разрываць дыстанцыю, што навязвае нам культурны рэлятывізм, — і проста трапляць разам зь імі ў тое істотнае мейсца, дзе адбываецца дзея думкі.

Зыходзячы з гэтага, пераклад у беларускую мову ня ёсьць чыста тэхнічным актам "азнаямленьня" альбо "інфармаваньня", — такі падыход нёс бы ў сабе фактычную дэструкцыю зьместу й патасу мысьленьня.

Пераклад заўсёды ёсьць пера-кантэкстуалізацыяй тэксту. Тэкст трапляе на іншыя вочы, у іншы тып чытаньня, правакуе іншыя пытаньні й дорыць іншыя адказы. Тэкст мусіць патрапіць у прастору, якую мы маглі б назваць "БЕЛАРУСКАЕ МЫСЬЛЕНЬНЕ".

* * *

"Беларускае мысьленьне" пачынаецца ня там і не тады, калі нехта прагне запоўніць лякуну альбо вытварыць чарговую сыстэму. Яно можа пачацца, калі *існае* — у сваёй якаснае разнастайнасьці — тое, што вакол нас, — выводзіцца са сваёй маўклівай і самазразумелай прысутнасьці, — і "перадаецца думцы як патрабуючае прадумваньня".

Ці ня ёсьць тады сытуацыя зь беларускім мысьленьнем (яго відавочнай адсутнасьцю) — ці ня ёсьць гэта сытуацыя адно вынікам і індыкатарам таго, што *існае* — тое што вакол нас —яшчэ не паўстала ў модусе пытальнасьці, яшчэ не пастаўленае пад сумлеў?

Мы не зьдзіўляемся, мы не задаем пытаньні, мы пагаджаемся з навакольлем і звыклым успрыманьнем гэтага наваколья...

I тут — раптам — мы сутыкаемся з Мішэлем Фуко...

**Ігар БАБКОЎ**



## Кароткая бібліяграфія працаў Мішэля Фуко


Maladie mentale et personnalité, PUF, 1954.

Maladie mentale et psychologie, PUF, 1962.

Folie et déraison, Histoire de la folie à l'âge classique, Plon, 1961. Réédition sous le titre Histoire de la folie à l'âge classique, Gallimard, 1972.

Introduction à l'"Anthropologie" de Kant. Thèse complémentaire pour le doctorat ès lettres, faculté de Paris (dactylographiée, bibliothèque de la Sorbonne).

Naissance de la clinique. Une archéologie du regard médical, PUF, 1963.

Raymond Roussel, Gallimard, 1963.

Les Mots et les choses. Une archéologie des sciences humaines, Gallimard, 1966.

L'Archéologie du savoir, Gallimard, 1969.

Titres et travaux. Plaquette éditée pour la candidature au Collège de France, 1969.

L'Ordre du discours. Leçon inaugurale au Collège de France, Gallimard, 1971.

Moi, Pierre Rivière, ayant égorgé ma mère, ma soeur et mon frère... Un cas de parricide au XIX siècle. Ouvrage collectif. Édité et présenté par Michel Foucault. Coll. Archives, Gallimard-Julliard, 1973.

Surveiller et punir. Naissance de la prison, Gallimard, 1975.

La Volonté de savoir (tome I de l'Histoire de la sexualité), Gallimard, 1976.

Le Désordre des familles. Lettres de cachet des archives de la Bastille. Présenté par Arlette Farge et Michel Foucault, Coll. Archives, Gallimard-Julliard, 1983.

Le Souci de soi et L'Usage des plaisirs (tome II et III de L'Histoire de la sexualité, Gallimard, 1984.

Résumés des cours au Collège de France. 1970 — 1982. Julliard, 1989.


Як ужо добра вядома, вялікім і абложным страхам XIX стагодзьдзя была ягоная гісторыя і ягоныя тэмы прагрэсу і стагнацыі, крызісу ды цыклічнасьці, акумуляцыі мінулага, рэшткаў памёрлых і небясьпекі астужэньня, што пагражае сьвету. XIX стагодзьдзе паўстае сутнасьцю міту, які мы ўтрымліваем у другім законе тэрмадынамікі. Зь іншага боку, нашая эпоха падаецца нам эпохаю прасторы. Жывем у часы сінхроннага, паралельнага, блізкага й далёкага, суседняга й аддаленага. Гэта перыяд, калі сьвет карыстае са спакусы разьвівацца не ў выглядзе адзінага прадвызначанага жыцьця, але як павуціньне, што зьвязвае кропкі і ствараe ўласнае бязладзьдзе. Можна гаварыць аб пэўным ідэалягічным сутыкненьні, што ляжыць у аснове кантравэрзы нашае эпохі, узьнікаючы паміж пабожнымі нашчадкамі часу і цьвёрдакаменнымі прыхільнікамі прасторы. Структуралізм —прынамсі, тое, што сабранае пад гэтым даволі няпэўным тэрмінам, — спрабуе ўчыніць паміж элементамі, што былі, верагодна, падзеленыя часам, задзіночаньне, выводзіць у пэўны парадак іх стасункі, супрацьпастаўляе ці зьвязвае, быццам утвараючы нейкі кшталт канфігурацыі. У сапраўднасьці, размова йдзе ня толькі аб асуджэньні часу, але й аб стаўленьні да таго, што называюць часам і пазнаюць пад найменьнем гісторыі.

Найперш, прастора, якая паўстае на даляглядзе нашых разважаньняў, нашых тэорыяў і сістэмаў, не зьяўляецца навіною для заходняй гісторыі, бо й сама мае гісторыю. Яе фатальная сувязь з часам ня можа зраўняцца ні з чым. У вельмі грубым набліжэньні да гэтае гісторыі магла б ісьці гаворка пра тое, што ў Сярэднявеччы існавала адна іерархічная сістэма мясьцінаў: мясьціны былі сакральныя ці прафанныя, засьцярожаныя ці, наадварот, бяззбройныя, урбанныя ці аграрныя (ва ўсіх выпадках, вызначаныя праз праўдзівае жыцьцё людзей). У касмалягічнай тэорыі ўсталёўваліся панаднябесныя мясьціны ў процівагу нябесным, якія, у сваю чаргу, розьніліся ад зямных, былі мясьціны — мейсцазнаходжаньні рэчаў, што там пад прымусам дасьпявалі, і іншыя, дзе, наадварот, гэтыя рэчы знаходзілі сваю прыроджаную паставу і спакой.

Гэткія іерархія, кантраст і разьлегласьць мясьцінаў стваралі тое, што можна было б прыблізна назваць сярэднявечнаю прастораю, ці прастораю лакалізацыі.

Менавіта гэтую прастору выкрыў Галілей, бо адкрыцьцё або адкрыцьцё нанова таго, што Зямля абарочваецца вакол Сонца, не было простым спакушэньнем, выклікaным дзейнасьцю Галілея, але сьцьвярджэньнем аднае бясконцае й бясконца адкрытае прасторы, у якой у нейкай ступені расплылася сярэднявечная прастора. Мейсца, на якім знаходзілася пэўная рэч, у сапраўднасьці не было нічым вышэйшым за кропку падчас яе руху, і ягоная прыпыненасьць ёсьць толькі бясконца паскораным рухам. Іншымі словамі, у XVII стагодзьдзі лакалізацыю зьмяняе працягласьць, пайменаваная галілеевай.

У наш час працягласьць ужо саступае сваё месца, калісь адабранае ў лакалізацыі, разьмяшчэньню. Апошняе вызначаецца стасункамі блізкасьці паміж кропкай і элементамі, што фармальна могуць апісвацца як сэрыя, як дрэва і павуціньне.

Зь іншага боку, нам даволі добра вядома, якое значэньне мае праблема разьмяшчэньня ў сучаснай тэхналёгіі: захаваньне інфармацыі ды парцыяльных вынікаў, разьлічаных у машыннай памяці: рухі дыскрэтных элементаў зь іх імавернымі зыходамі (напрыклад, у аўтамабілях або нават у гуках, што трансьлююцца тэлефоннымі лініямі); паставы маркіраваных ці шыфраваных элементаў у межах імавернасна падзеленай сукупнасьці, сукупнасьці, што разгортваецца ў аднагалосную або шматгалосную сістэму, і г.д.

Яшчэ адным пэўным чынам чалавек навідавоку сутыкаецца з праблемаю разьмяшчэньня ў дэмаграфічным сэнсе. Пытаньне разьмяшчэньня насельнікаў Зямлі ня зводзіцца цалкам да таго, ці дастаткова мейсца для ўсіх — праблема, якая, прынамсі, мае першараднае значэньне, — гэта яшчэ і пытаньне ведаў, якім стасункам блізкасьці, якім тыпам захаваньня, руху, пазначэньня, разьмеркаваньня аддаваць перавагу ў той ці іншай сітуацыі, у залежнасьці ад шуканай мэты. У нашую эпоху прастора паказваецца нам пад выглядам мадэлі разьмеркаваньня.

Зрэшты, мяркуем, што сёньняшнія боязі істотным чынам павязаныя з прастораю значна болей, чым з часам: апошні падаецца, пэўна, адным з размаітых магчымых узораў разьмеркаваньня элементаў, раскіданых у прасторы.

Магчыма, сёньня сучасная прастора яшчэ не згубіла свайго сакральнага значэньня, якое час, без сумневу, згубіў у XIX ст., насуперак усім тэхнікам, што яго блакуюць, і сетцы ведаў, якая ўмажліўляе яго вызначэньне й фармалізацыю. Натуральна, тэхнічная дэсакралізацыя прасторы, якую запачаткавала галілеева адкрыцьцё, усё ж адбылася: застаецца зірнуць, ці зьдзейсьнілася яна на практыцы. Магчыма, што нашае жыцьцё яшчэ кіруецца нейкай колькасьцю непадатных супярэчнасьцяў, зьнішчыць якія не насьмельваюцца ні звычаі, ні практыка. Маюцца на ўвазе кантрасты публічных і прыватных, сямейных і грамадзкіх, культурных і утылітарных прастораў, прастораў гульні й прастораў працы — усе гэтыя

# ПАСТКА ДЛЯ ПРАСТОРЫ

Мяйсцовасьць нашага бытаваньня з цягам часу ўсё менш прымушае згадваць неабсяжныя прасьцягі, у чыёй разьлегласьці яна калісьці мела дакладна вызначаны і пачэсны пасад. Адрываючыся ад каардынатнае сеткі, кожная мясьціна, здавалася б, непазьбежна губляе свае контуры і пераўтвараецца ў мейсцапалажэньне — лякалізаваны пункт, каторы ў сваёй вітальнасьці ды штодзённасьці выдатна пачуваецца без культурна-гістарычных кшталтаў, абрысаў, сутоньняў. Аднак мясьціна "Тут", страціўшы повязь з празрыстаю ідэалягічнаю прастораю, не задавольваецца безразважным плянамэтрычным існаваньнем кропкі на карце, — шыльды, дарожнага паказальніка, акцэнта. Мясьціне, якая прад'яўляе прэтэнзіі быць самадастатковым абшарам, што перастала рэпрэзэнтаваць гэнэральную прасторавую сукупнасьць і не перамянілася ў адмысловы знак нейкага мейсца, які адбудоўвае канвэнцыі з матар'яльнымі рэчамі, наканаваная адносна сваіх насельнікаў роля не пані і не пакаёўкі, а сада-мазахістычнае партнэркі, галоўная зброя якой — авантура ды містыфікацыя.

Чалавек, які засвойвае мейсца, знаёмы з домам, ладам, гармоніяй. Чалавек, арыентаваны ў прасторы, кіруецца шляхам, уладаю, мэтаю. Насельнік нашае мясьціны, мясьціны бяз мейсца і далягляду, змушаны ёю да адвечнага побыту ў нечым накшталт "пернічнага дамка" ці "хаціны трох медзьвядзёў", канфігурацыяў разам адкрытых і закрытых, добраахвотных і гвалтоўных, элітарных і паспалітых. У іх, калі нават і ўдаецца адшукаць адвечны табе памер рэчаў і стварыць падабенства камфорту, ніколі нельга быць упэўненым наконт характару іншых насельнікаў-гаспадароў ды іхных плянаў адносна цябе.

Зрэшты, такія мясьціны, што, існуючы рэальна, аспрэчваюць і абарочваюць усе іншыя праўдзівыя разьмяшчэньні, ня могуць мець аніякіх праўдзівых гаспадароў (што не замінае ім, аднак, рэгулярна падаваць сваім жыхарам такія фігуры ў якасьці праўдзівых). Таму ў дачыненьні да мясьцінаў, трапна пазначаных Мішэлем Фуко як "гетэратопіі", неправадзейныя стварэньне і трансляцыя тэхналогіяў улады, што рэалізуюцца на такіх прасторавых разьмяшчэньнях, як прырода, грамадзтва або гісторыя. Нашая мясьціна дэманструе пэўную свабоду функцыянаваньня нават у стасунках са знакамітым прынцыпам "ведаць — значыць, валодаць" і ягонай міталягічнай праформай, каторая злучае найменаваньне рэчы і валоданьне ёю. (Мы ня ведаем праўдзівага імя прасторы нашага бытаваньня, дакладней, мы ведаем залішне яе імёнаў, прозьвішчаў ды мянушак, сярод якіх нішто не выглядае менш праўдзівым, чым рэшта.) Непадступнасьць яе вывучэньня вынікае не з культавага эзатэрызму і не з занядбанае гістарычнае традыцыі, наадварот, нашая мясьціна празьмерна (і пагэтаму ўяўна) адкрытая, пазітыўная, дыялагічная, мясьціна-тавар, мясьціна-ахвяра. Яна прапануе сябе прастадушнаму прыхадню, ствараючы ілюзію валоданьня, і, урэшце, разьмясьціўшы яго, прызнаецца ў фіктыўнасьці ўласнага існаваньня. Нідзе не адчуваецца паўнавартасьць нашае мясьціны так востра, як далёка па-за яе межамі.

Менавіта таму, напэўна, М.Фуко ў сваім эсэ не прапаноўвае адмысловае навукі аваладаньня гетэратопіяй; магчымае толькі яе адчытваньне, бясконцая дэшыфрацыя, выкрыцьцё і пошук. Гэткая праграма нагадвае мерапрыемствы па лячэньні грыпу: нескончоныя намаганьні па выяўленьні віруса без аніякага спадзяваньня на зьнішчэньне самой варыябэльнай хваробы. Апісаньні гетэратапічных мясьцінаў, прапанаваныя Фуко, падаюцца нам адмысловым шэрагам партрэтаў для апазнаньня біялагічнага віда (або злачынца), якія засвойваюцца памяцьцю безадносна да верагоднасьці спатканьня зь ім.

Фуко расстаўляе пасткі (не капканы, а лавушкі) для прасторы, істоты, якой, нават схапіўшы яе, нельга авалодаць, якую можна распазнаць, але немагчыма прадэманстраваць. Неабходнасьць высочваньня, выкрываньня, вылоўваньня мясьціны з гетэратапічным абліччам грунтуецца ня толькі высокакаштоўнаю эстэтыкаю самога працэсу пошуку, але й сваімі чыста нэгатыўнымі вынікамі: мы даведваемся пра тое, чым ня ёсьць нашая мясьціна, або пра тое, што ёсьць ня толькі нашаю мясьцінаю. (Гэтак, сярэднявечныя пошукі адзінарога або васіліска — неабходных фігураў напружаньня жыцьцёвай рэальнасьці, — прыводзяць, нягледзячы на ўсё падабенства, да адмаўленьня прызнаць у гэтых фігурах праўдзівага насарога або праўдзівую кобру.)

Бадай, гэта ня так ужо і мала, натуральна, калі адмовіцца ад мэтафізыкі ведаў-аваладаньняў гэтай нічыёй, чужой і, урэшце, сваёй мясьцінай. Менавіта яна, дэманструючы ўласную фіктыўнасьць, змушае нас да пабудовы на яе мейсцы размаітых утопіяў: ад рэтраспэктыўнага міту да этатасцкіх праектаў.

Яна — штодзённа аднаўляе нас у паўсядзённасьці, нібы люстэрка, і гвалтоўна прыпісвае нам імя, паходжаньне, спосаб дзеяньняў і прызначэньне.

Яна — у адначасьсе вылучае, дыстылюе мяне з масы падобных, вымушае адчуваць сорам за гэта і, забараніўшы вяртаньне назад, абуджае ўва мне прагу да прыпадабненьня астатніх да сябе. Гасьцінна адчыненая, яна ўладкоўвае гаспадара пад лаўкаю, а госьця на ложку, зрэшты, толькі да прыходу новага госьця.

Яна — набывае рысы сапраўднасьці толькі ў былых сваіх насельніках, што засвоілі чужыя мясьціны, і пры гэтым карае іх, асуджаючы на ілюзію вечнага вяртаньня.

Яна — раз-пораз разбурае ўласнаручна нагрувашчаную вертыкаль веды-традыцыі і, забыўшыся на акумуляцыю часу, пачынае адраджаць традыцыю ў сьвяткаваньні, у сьвяце-кірмашы, банкеце, хаўтурах, выяўляючы пэрманэнтную рэпрэсыю часу.

Яна — дазваляе нам злавіць сябе толькі дзеля таго, каб мы ўбачылі, што перад намі не пачвара, а вятрак, не каралеўна, а вядзьмарка, і падоўжылі гэтым свае няспынныя пошукі ідэальнае прасторы.

Яна — не ўтульная "Ідэя", і не пэрспэктыўны "Шлях", яна мейсца сустрэчы з самім сабою, якое, як вядома, нельга зьмяніць.

**ПЕРАКЛАДЧЫК**

# МІШЭЛЬ ФУКО

супярэчнасьці і надалей выклікаюць прыхаваную сакральнасьць.

Башлярава (вялікае) вынаходніцтва і апісаньні фенаменальнага навучылі нас жыць не ў гамагеннай і пустой прасторы, але ў прасторы, насычанай якасьцямі, што агорнутыя можа нават нейкай спакусьліваю аўраю. Прастора нашае пачатковае рэцэпцыі, нашых сноў ды жаданьняў мае цалкам унутраныя прыкметы: яна лёгкая, эфірная, празрыстая або змрочная, нераўнамерная й груваcтая. Гэта таксама прастора ўзнёслая, "горняя", або, наадварот, заглыбленая, багністая; яна цячэ, бы крыніца, ці застаецца нерухомаю, бы камень ці крышталь.

Прынамсі, такога кшталту аналіз, ключавы для сучаснага мысленьня, аддае перавагу ўнутранай прасторы. Але я б хацеў разважаць аб прасторы зьнешняй, прасторы нашага жыцьця, нашага выйсьця зь сябе, уласна аб той, дзе здзяйсьняецца эрозія нашых жыцьцяў, нашага часу, нашае гісторыі, аб прасторы, якая нас разьбівае і крышыць і пры гэтым сама паўстае разнароднаю. Інакш, мы не жывем у нечым накшталт вакууму, дзе знаходзяцца асобы і рэчы, але ў нейкай сукупнасьці, адносна якой мы вызначаем пэўнае палажэньне, каторае нельга ні ідэнтыфікаваць, ані іерархізаваць.

Натуральна, чалавек можа спрабаваць апісваць разнастайныя разьмяшчэньні, вышукваючы тую сукупнасьць, адносна якой ён іх вызначае. Прыкладам, так я апісаў бы сукупнасьць, ад якой вызначаюць разьмяшчэньне пераходу, шляху, цягніка (калі гаворка йдзе аб цягніку, уявіце сабе той клубок, адносна якога падаецца прадмет, праз які мы можам прайсьці, з дапамогаю якога мы перамяшчаемся з аднаго пункта ў другі і які сам здольны да перамяшчэньня).

Між тым, мяне цікавяць толькі некаторыя з тых разьмяшчэньняў, дакладней, тыя, што валодаюць неабходнаю прыкметаю быць павязанымі з усімі астатнімі, і ў той жа час скасоўваюць, умажліўляюць ці пераварочваюць сукупнасьць, адносна якой яны сфармаваныя і якая выпрабоўваецца ці адбіваецца на іх. Такія прасторы, што пэўным чынам паяднаныя з усімі іншымі, проціпастаўляючыся ім, падзяляюцца, аднак, на два галоўныя гатункі.

Перш за ўсё, гэта утопіі. Гэта разьмяшчэньні, каторыя ня маюць праўдзівае прасторы. Разьмяшчэньні, якія, беручы агулам, уваходзяць у простыя або зваротныя стасункі простае або зваротнае аналёгіі з праўдзівымі прастораю ці грамадзтвам. Яны падаюць грамадзтва, даведзенае да дасканаласьці, або ягоны адварот, ва ўсіх выпадках, утопіі падаюцца прасторамі, несапраўднымі па сваёй сутнасьці.

Існуюць і, пэўна, маюць моц ва ўсіх культурах і цывілізацыях рэальныя, эфектыўныя прасторы, абрысы якіх назіраюцца ў кожнай грамадзкай установе, але якія ўяўляюць сабою нейкі від абернутага разьмяшчэньня ў дачыненьні да сапраўднага зьдзяйсьненьня утопіі: у іх пададзеныя, аспрэчаныя і абернутыя ўсе праўдзівыя ці вынайдзеныя ў грамадзтве мясьціны: мясьціны па-за сваімі мейсцамі, чые знаходжаньні, аднак, можна вызначыць. У адрозьненьне ад утопіяў, такія мясьціны, якія ўяўляюць сабою нешта абсалютна іншае ў дачыненьні да свайго разьмяшчэньня, таго, што яны адлюстроўваюць, можна было б апісваць як гетэратопіі. Паміж утопіяй і гетэратопіяй я б паставіў такі кшталт камбінаванае зьявы, якая мае рысы абедзьвюх мясьцінаў: люстэрка. Яно ёсьць утопіяй, бо, зрэшты, падае нам мясьціну бязь мейсца. У ім я бачу сябе там, дзе мяне няма, у несапраўднай прасторы, што патэнцыяльна адкрываецца з таго боку свае паверхні, тут я зьмяшчаюся там, дзе адсутнічаю, як нейкі цень, што робіцца відочны разам з маім зьяўленьнем, што робіць відочным мяне там, дзе я адсутнічаю: утопія люстэрка. У той жа час тут мы сутыкаемся і з гетэратопіяй. Люстэрка сапраўды існуе і мае нейкі выгляд зваротнага ўзьдзеяньня на мейсца, якое займае: пачаўшы ад яго, я ў сапраўднасьці назіраю тое адсутнае мейсца, на якім знаходжуся, таму што я бачу сябе там, у люстэрку.

Пачаўшы з позірку, які ў пэўнай ступені мне вяртаецца з глыбіні віртуальнае прасторы па другі бок люстэрка, я перакульваю сябе, паволі зьвяртаючы позірк на сябе, аднаўляючы сябе на тым мейсцы, дзе сапраўды знаходжуся. Пагэтаму люстэрка функцыянуе як гетэратопія, бо калі я ўзіраюся ў яго, займанае мною мейсца існуе й цалкам сапраўднае, яно папраўдзе зьвязанае з цэлаю навакольнаю прастораю, — але і зусім несапраўднае, таму што, каб стаць заўважным, яно непазьбежна мусіць прайсьці скрозь тую віртуальную кропку, якая зьмяшчаецца ў люстэрку.

Што тычыцца гетэратопіі ў дакладным сэнсе, дык ці магчыма іх апісаць? У чым іх значэньне? Мы маглі б пастуляваць не навуку, сёньня гэта залішне ўжыванае слова, але пэўны род сістэматычнага апісаньня. У дачыненьні да канкрэтнага грамадзтва яго мэтаю сталася б вывучэньне, аналіз, апісаньне і "адчытваньне", кажучы сучасным мовам, тых разнастайных прастораў, тых "іншых" мясьцінаў, у іх своеасаблівым міфічным і адначасна праўдзівым спаборніцтве з тою прастораю, дзе мы жывем. Такое апісаньне можа быць названае гетэратапалёгіяй. Яго першым прынцыпам ёсьць, пэўна, тое, што не існуе ніводнае культуры ў сьвеце, якая была б зачыненая для гетэратопіі. Апошняя зьяўляецца сталаю прыкметаю ўсіх чалавечых груповак. Між тым, відавочна, што нельга зьвесьці ў адно тыя аблічы, якія прымаюць гетэратопіі, універсальнае абліччa, магчыма, увогуле не існуе. Прынамсі, яны падзяляюцца на два галоўныя гатункі.

У так званых прымітыўных супольнасьцях выяўляе сябе пэўны від гетэратопіі, які можна апісаць як гетэратопію крызісу; яна зьмяшчае прывілеяваныя, або сьвятыя, або забароненыя мясьціны, прызначаныя для індывідаў ў стане крызісу адносна супольнасьці ці наваколься, у якім яны жывуць: падлеткі, жанчыны на працягу менструальнага перыяду або родаў, састарэлыя і г.д.

У нашым грамадзтве гэткія гетэратопіі крызісу паволі зьнікаюць, захоўваючыся надалей толькі рэшткамі. Напрыклад, інтэрнаты для моладзі ў выглядзе, які яны мелі ў XIX ст., альбо вайсковае навучаньне рабілі магчымымі праявы першых прыкметаў мужчынскае сэксуальнасьці "ў іншым мейсцы", па-за сям’ёю. У дачыненьні да дзяўчат да сярэдзіны XIX ст. працягвала сваё існаваньне старажытная тэма, традыцыя "мядовага месяца", ці па-француску, "voyage de noces". Дэфлярацыя дзяўчыны ў той час не магла адбывацца "нідзе", цягнік або гатэль былі ўсё ж пэўнаю мясьцінаю, якая не зьмяшчалася "нідзе", гетэратопіяй без дакладных геаграфічных каардынатаў.

Аднак, гэтыя гетэратопіі крызісу зараз зьнікаюць, як мне здаецца, саступаючы іншым, якія могуць апісвацца як гетэратопіі адступленьня, іх займаюць людзі, чые паводзіны адступаюць ад звыклае завядзёнкі ці нормы. Гэта ізалятары, псіхіятрычныя клінікі і, натуральна, турмы. У гэты сьпіс варта дадаць, без сумневу, і дамы састарэлых, што знаходзяцца ў пэўным сэнсе на мяжы гетэртопіяў крызісу і адступленьня. Гэта таму, што ў грамадзтве кшталту нашага, дзе існуюць правілы задаволеньня, неактыўнасьць старасьці не выглядае ні толькі крызісам, ні толькі адступленьнем.

Другі прынцып майго апісаньня: на працягу свае гісторыі супольнасьць розным чынам выкарыстоўвае адну і тую ж гетэратопію, якая не губляе свайго існаваньня. У сапраўднасьці, кожная гетэратопія мае ясную й дакладна вызначаную функцыю ў супольнасьці, і ў той жа час, у залежнасьці ад сынхраніі з культураю, у якой знаходзіцца, можа выконваць розныя ролі.

Возьмем, напрыклад, незвычайную гетэратопію могілак. Могілкі падаюцца нам заўсёды "іншым" мейсцам адносна звычайнае культурнае прасторы, аднак ва ўсіх выпадках яно застаецца зьвязаным з усімі мяйсцовасьцямі гораду, вёскі, грамадзтва і г.д., таму што кожная сям’я мае тут нейкага сваяка. Гаворка можа йсьці аб тым, што гэтая гетэратопія адвеку існуе ў заходняй культуры, перажываючы пры гэтым значныя зьмены.

Да XVIII ст. могілкі зьмяшчаюцца звычайна ў самым сэрцы горада, побач з царквою.

Тут існавала іерархія ўсіх магчымых тыпаў магілаў. Былі тут фамільныя скляпеньні, у якіх памерлыя гублялі апошнія прыкметы індывідуальнасьці, былі асобныя магілы і магілы ўнутры царквы, апошнія будаваліся звычайна паводле дзьвюх мадэляў: суцэльнаю мармуроваю плітою ці грабніцаю са статуямі і г.д. Могілкі, разьмешчаныя ў сьвятой прасторы царквы, набываюць цалкам іншае значэньне ў сучаснай цывілізацыі. Займальным падаецца, што ў эпоху, якую даволі груба вызначаюць як "атэістычную", у заходняй культуры паўстаў культ памерлых. Пакуль усе людзі шчыра верылі ва ўваскрэшаньне цела і неўміручасьць душы, зусім натуральным было не надаваць вялікага значэньня зямным астанкам. Наадварот, з тае хвіліны, як людзі адчулі няўпэўненасьць у замагільным жыцьці, лягічна ўзьнікае падкрэсьленая ўвага да пакланеньня пасьмяротным астанкам, якія, зрэшты, уяўляюцца адзіным сьледам нашага побыту ў сьвеце.

Як бы там ні было, ад XIX ст. і па сёньня кожны з нас мае права на ўласную невялічкую скрыню для свайго ж невялікага разлажэньня, і толькі ў XIX ст. пачалося перамяшчэньне могілак на перыферыю горада. Побач з гэткай індывідуалізацыяй сьмерці і грамадзкім прыўлашчваньнем могілак узьнікае аблога, блякада сьмерці як пэўнае хваробы. Лічыцца, што памерлыя пераносяць хваробу на жывых, і таму іх прысутнасьць паблізу дома і царквы, проста пасярод вуліцы, расьсявае сьмерць. Такая вялікая боязь распаўсюджваньня хваробы і заразы, што выцякаюць з могілак, пачынае ўпарта зьяўляцца ў канцы XVIII ст., таму на працягу XIX ст. могілкі пераносяцца ў прадмесьці. Ад таго часу яны больш не былі асьвечаным і несьмяротным подыхам горада, але "іншым горадам", у межах якога кожная сям’я мела сваю змрочную хаціну.

Трэці прынцып. Гетэратопія мае моц учыняць на адным праўдзівым мейсцы стасункі паміж рознымі нязьвязанымі прасторамі ды мясьцінамі. Гэткім чынам, у тэатры, на прастакутніку сцэны зьмяняюць адзін аднаго шэрагі мясьцінаў, чужых адна адной, гэткім чынам кінатэатр падае нам даволі нязвыклую прастакутную прастору, што існуе ў праецыраваньні задняе трохмернае прасторы на дзьвюхмерны экран. Найбольш старажытны прыклад гетэратопіі ў выглядзе несумяшчальных мясьцінаў падае, пэўна, сад. Ня сьлед забывацца на тое, што гэткія старадаўнія прыгожыя творы мелі на ўсходзе глыбокі сэнс і што, мяркуючы па ўсяму, пазьней ён быў перахаваны. Традыцыйны пэрсідзкі сад зьяўляўся асьвечанаю прастораю, якая ў межах свайго прастакутніка патрабавала ўтрыманьня як чатырох прадметаў, што сымбалізавалі б чатыры бакі сьвету, так і аднае мясьціны, яшчэ больш асьвечанай, чым астатнія, — цэнтар сьвету, уведзены ў сад (тут зьмяшчаўся басэйн з вадою або фантан). Уся жыцьцядзейнасьць саду канцэнтравалася ў гэтай зоне, як у падабенстве мікракосмасу. Што тычыцца дываноў, то яны сьпярша падавалі рэпрадукцыю саду, паколькі сад быў дыванам, на якім увесь сукупны сьвет дасягаў сымбалічнае дасканаласьці, а дыван — нейкім кшталтам рухомага ў прасторы сада. Сад зьяўляўся драбніцаю сусьвету, адначасна пазначаючы пэўную сукупнасьць, і гэтым утвараў від удалае і унівэрсальнае гетэратопіі (ад якой паходзяць нашыя заалягічныя сады).

Чацьвёрты прынцып. Гетэратопіі ў асноўным спалучаюцца з фрагмэнтам часу, гэта значыць, яны адчыняюцца нам праз тое, што можна найменаваць чыстаю сіметрыяй гетэрахранізму. Гетэратопіі выконваюць функцыю дапаўненьня таго часу, у якім знаходзяцца людзі, запаўняючы перапынкі іх традыцыйнага часу. Лёгка заўважыць, у якой ступені могілкі ёсьць гетэратапічнаю мясьцінаю, зьдзяйсьняючыся з тым цудоўным гетэрахранізмам, які надае чалавечаму бытаваньню страту жыцьця і ўяўную вечнасьць, у якой жыцьцё, аднак, не перастае зьнікаць.

Беручы агулам, у грамадзтвах тыпу нашага гетэратопія і гетэрахранізм арганізоўваюцца і вызначаюцца даволі складаным чынам. Перш за ўсё, існуюць гетэратопіі, у межах якіх час акумулюецца ad infinitum, гэта менавіта музэі і бібліятэкі. Такога кшталту гетэратопіі, у якіх час не перастае акумуляваца, знаходзяцца, так бы мовіць, на вастрыі саміх сябе. Аднак, да XVII ст. яны яшчэ заставаліся праявамі індывідуальнага выбару. Хутчэй, ідэя накапленьня ўсяго, памкненьне да афармленьня ды стылёвага засяроджваньня ўсіх часоў, усіх перыядаў у адным мейсцы, задума ўсталяваньня шматлікіх часінаў на адным мейсцы, якая, аднак, абараняючыся ад паўсюднага распаду, зьдзяйсьняе сябе па-за часам, згодна пэўнаму пляну ўтварае амаль бесьперапынную і неабмежаваную акумуляцыю ў межах адзінага нерухомага мейсца, усё разам належыць нашаму сучаснаму сьветапогляду. Музэі й бібліятэкі — гетэратопіі — уласьцівы заходняй культуры XIX ст.

Нароўні з накапленьнем часу існуюць гетэратопіі, што тычацца часу ў ягонай павярхоўнай, нясталай і зьменлівай форме, часу, які перажываецца як сьвяткаваньне. Гэткія гетэратопіі ня схільныя да вечнага. Яны цалкам залежаць ад часу. Такому тыпу належаць кірмашы, гэтыя дзіўныя пустыя прасторы па-за гарадзкімі межамі, якія два разы на год запаўняюцца намётамі, прылаўкамі, разнастайнымі прадметамі, асілкамі, жанчынамі-зьмеямі, варажбіткамі і да г.п. Ня так даўно быў вынайдзены яшчэ адзін, новы від гетэратопіі часу — паселішча для адпачынку: нейкі кшталт полінэзійскае вёскі, дзе гарадзкім жыхарам прапанаваныя тры тыдні прымітыўнае і пастаяннае аголенасьці. Добра відно, што два гэтыя гатункі гетэратопіяў, гетэратопіяў часу і сьвяткаваньня, набліжаюцца адзін да аднаго: хаціны на выспе Вялікадня пэўным чынам падобныя да бібліятэк ды музэяў.*

Пяты прынцып. Гетэратопіі заўсёды падаюць нам адзіную сістэму адкрытасьці і закрытасьці, што робіць іх недасягальнымі і, адначасна, умажліўляе пранікненьне ў іх. Чалавек звычайна не трапляе ў гетэратапічную мясьціну самавольна. Ён або змушаны да гэтага, як у войску ці ў турме, або абавязаны падвергнуць сябе абраду ачышчэньня. Унікнуць гэтага можна толькі з нейкага адмысловага дазволу ці па выкананьні пэўнае колькасьці працы. Існуюць і гетэратопіі, прысьвечаныя ачышчальным абрадам, з напаўрэлігійным, напаўгігіенічным характарам (мусульманскія лазьні), і выключна гігіенічныя (скандынаўскія саўны).

Іншыя гетэратопіі выглядаюць як чыстая адкрытасьць, хаця й прыхоўваюць звычайна дзіўныя выключэньні. Кожны можа датыкнуцца да гэткае мясьціны, але такое датыкненьне ёсьць тыповаю ілюзыяй: нам здаецца, што мы ўжо ўвайшлі ў яе, але нас выключае самы прынцып дзеяньня ўвахода. Мяркуем, прыкладам, аб пагалосцы пра тыя пакоі, што сустракаліся на вялікіх фэрмах Бразыліі і, увогуле, Паўднёвае Амэрыкі. Дзьверы ўвахода да іх не вялі ў галоўную частку дома, дзе жыла сям’я, таму кожны, хто трапляў у іх, кожны выпадковы падарожнік меў права адчыніць дзьверы, увайсьці ў пакой і заначаваць у ім. Гэткі тып гетэратопіі, які ўжо амаль зьнік у нашай цывілізацыі, можна апазнаць у амерыканскім "матэльным" пакоі, куды чалавек трапляе з дапамогаю свайго транспарту і разам са сваім партнэрам і дзе неўзаконены сэкс цалкам схаваны й абаронены, у далечыні ад сьвету, хаця і не пад адкрытым небам.

Нарэшце, апошняя форма гетэратопіі — тая, што мае функцыю раскрываньня рэшткӑў прасторы паміж рознымі паламі. З аднаго боку, яна вырашае задачу стварэньня прасторы-ілюзыі, якая падавала б яшчэ большую ілюзыйнасьць усяе праўдзівае прасторы, усіх мясьцінаў, на якіх дазволенае жыцьцё, з другога боку, яна патрабуе стварэньня яшчэ аднае праўдзівае прасторы, дасканалае, бездакорнае і добраўпарадкаванае ў той ступені, у якой неўпарадкаванай, недасканалай і заганнай ёсьць прастора нашага жыцьця. Гэта ўжо не гетэратопія-ілюзыя, але кампэнсацыя, якая ўзбуджае пытаньне: ці няма якой-небудзь калёніі, што функцыянавала б падобным чынам.

У пэўных выпадках калёніі гралі ролю сапраўднае гетэратопіі, дакладна арганізоўваючы зямельную прастору. Такім прыкладам магла б выступаць пэўная пурытанская калёнія з першай хвалі каланізацыі XVII ст., заснаваная ангельцамі ў Амерыцы, якая паўстала як дасканалая мясьціна.

Іншы прыклад, незвычайная езуіцкая калёнія, заснаваная ў Паўднёвай Амэрыцы: цудоўнае, цалкам упарадкаванае паселішча, у якім чалавек сапраўды дасягаў дасканаласьці. Езуіты заснавалі ў Парагваі паселішча, дзе жыцьцё было адладжанае да апошніх дробязяў. Вёска будавалася па строгім узоры, наўкол прастакутнага пляцу з царквою ў цэнтры, школаю з аднаго боку і могілкамі з другога, насупраць царквы ляжала вуліца, што складала з другою вулкаю просты вугал. Усе сямейныя дамы паўставалі ўздоўж адзін аднаго, дзьвюма восямі ўтвараючы, такім чынам, знак Хрыста. Гэтак хрысьціянства істотна пазначала прастору і геаграфію амерыканскага краю.

Паўсядзённае жыцьцё індывіда ўпарадкоўвалася тут не сьвістком, але царкоўным звонам: абавязковае абуджэньне а пэўнай гадзіне, малітва апоўдні ды ў пяць гадзін. Па гэтым людзі адыходзілі да сну, а апоўначы адбывалася тое, што вядома як "шлюбнае абуджэньне": на гук манастырскага звону кожны распачынаў сваю супружніцкую дзейнасьць.

Бардэлі ды калёніі — гэта два экстрэмальныя тыпы гетэратопіяў. Разважайце аб караблёх: аб гэтых плывучых прыладах, мяйсцовасьцях бязь мейсцаў, якія жывуць самі па сабе, закрытыя ў сабе, і ў той жа час блукаюць па бяскрайнім акіяне ад гавані да гавані, ад мейсца да мейсца, ад бардэля да бардэля, вандруючы да самае калёніі ў пошуках найкаштоўнейшых рэчаў, схаваных у ейных нетрах. Таму варта задумацца, чаму ў нашай цывілізацыі ад XVI ст. і па сёньня карабель падаецца, без сумневу, найгалоўнейшым чыньнікам эканамічнага разьвіцьця, але ж і найглыбейшаю крыніцаю фантазыі. Карабль ёсьць гетэратопіяй par exellence. У цывілізацыях, якія яго не маюць, замест авантураў існуе шпіянаж, замест карсараў — паліцыя.

* Назва перакладчыка.

**Пераклад Аляксея КРУКОЎСКАГА**

